PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 23 (2038) ГОД XL БЕЛАСТОК 4 ЧЭРВЕНЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



*Лаўрэат першай узнагароды ў катэгорыі прафесіянальных выканаўцаў — камерны хор Гомельскай філармоніі.*

## ФІНАЛЬНЫ КАНЦЭРТ



*Хор пеўчага таварыства "Мокраньяц" з Бялграда (Сербія).*



*Хлапечы ансамбль "Дар'ялі" з Тбілісі (Грузія).*

Фестываль царкоўнай музыкі традыцыйна завяршаецца фінальнымі канцэртамі ў Гайнаўцы і Беластоку. Канцэрт у Беластоку пачаўся з выканання Gaude Mater Polonia настаўніцкім хорам з Лодзі. Выступіла большасць удзельнікаў Фестывалю, якія сёлета прыехалі толькі з усходняй часткі Еўропы. На Фестываль меўся прыехаць хор з Чорнай Афрыкі, з Уганды, але не даехаў. Усё-ткі ёсць надзея, што негрыцянскія праваслаўныя харысты прыедуць наступным разам — мае гэта быць хор з Кеніі. Пра экзатычных гасцей пішу таму, што беластоцкая публіка з асаблівым энтузіязмам успрымала выступленні выканаўцаў, пражываючых на абмежках праваслаўнага арэала. На дадатковыя выкананні выклікаліся хоры з Таліна, Тбілісі і Бялграда. Камерны хор з Таліна выканаў „Знаменный распев" — рэдкую ў нас вакальную форму. У рэпертуары гэтага хору бываюць кампазіцыі найслаўнейшага маскоўскага цара Івана IV Жахлівага — вялікага любіцеля і кампазітара царкоўнай музыкі. Хлапечы хор з Тбілісі спадабаўся публіцы і за выкананне найстарэйшай, дахрысціянскай яшчэ, кампазіцыі (IV ст.) і за арыгінальныя грузінскія ўборы. Шакіруе крыху, што для выканання рэлігійных песняў трэба дзецям чапляць кінжалы. Але для гэтага ёсць аснова. Пра выкананне хорам з Бялграда паніхіды чытаем у другім нумары „Gazety Festiwalowej": „Było to jakby „nadgrobnoje ridanije" za wszystkich, którzy zginęli w obronie prawosławnej wiary". Варта прыгадаць, што не толькі сербы бароняць сваю веру, робяць гэта таксама мусульмане і харваты. Асабліва цяпер наяўна відаць, што ў былой Югаславіі жывуць вельмі рэлігійныя людзі. Яшчэ крыху пабароняць „веру" і невядома ці астанецца хто для адпявання гэтых набожных ваякаў, якія бароняць веру не толькі ад мужчын. На шчасце „патрыятычных" спеваў было нямнога, а сам

*Працяг на стар. 9*

## Ці будзе школа ў Дубяжыне?

Пачатковая школа ў Дубяжыне аж свеціцца — усюды чысціня, парадак. Неаднаразова была яна лаўрэатам ваяводскага конкурсу на чысціню ў школах. Але ўсё паказвае, што гэты год будзе апошнім для яе. Куратар асветы і выхавання накіраваў 6 мая ў Раду бацькоў ліст, у якім падтрымлівае намер ліквідацыі школы 31 жніўня.

— *Такі намер ужо ёсць некалькі гадоў*, — кажа дырэктар школы **Надзея Аврарчук**, — *але канчатковае рашэнне ўсё адсоўваецца.*

У абарону сваёй школы вельмі моцна заангажаваліся бацькі. Ездзілі ў кураторыю, сустракаліся з войтам Бельскай гміны. Куратар, пакуль прыняць рашэнне аб ліквідацыі тае ці іншае школы, праводзіць кансультацыю з самаўрадавымі ўладамі. Войт **Юры Ігнацюк** абяцаў ім спачатку падтрымку, але потым выявілася, што Гмінная ўправа аднадушна выказалася за ліквідацыю школы ў Дубяжыне. Дзяцей вазілі б у школу ў Кнарыдах.

— *Я цікавы, чым*, — кажа адзін з бацькоў, якія запрасілі мяне на сустрэчу 17 мая, — *вясною тудою, на Мокрае, то ледзь трактар праедзе. Аўтобус — у ніякім выпадку.*

Дубяжынцы гавораць, што разумеюць, чым кірусцца кураторыя, жадаючы ліквідаваць іхнюю школу. Сёлета тут 31 вучань, а ў наступным годзе будзе ўсяго 25. Але маюць прэтэнзіі да войта, што ён, як гаспадар гэтай тэрыторыі, не хоча ім дапамагчы. Можа хоць год яшчэ варта было б утрымаць школу і тым часам дарогу добрую зрабіць. Школа ў Кнарыдах таксама патрабуе рамонту.

— *То наша школа як лялечка*, — кажуць яны, — *а дзеці паедуць у Кнарыды, у шэрую, вільготную. Шкада дзяцей.*

Шкада ім таксама будынка, да пабудовы якога прыклалі шмат намаганняў. Здалі яго ў карыстанне ўсяго дзесяць гадоў таму, у 1985 годзе. Доўга ім не нацешыліся. Увесь час дапамагалі ў яго ўтрыманні, куплялі і загатаўлялі дровы, вывозілі смецце, куплялі сродкі чысціні, усякага роду парашкі, пасты. А вядома, што станецца з будынкам, калі ён апусцее. Пыталі яны войта, што ён плануе з ім зрабіць, то ён раз запрапанаваў, каб прадалі яго і купілі аўтобус (?), а іншым разам сказаў, што паставіць стаража.

Да войта **Ігнацюка** маюць прэтэнзіі за яго адносіны да людзей.

— *Рашэнне ўжо прынятае, сказаў ён нам*, — расказваюць, — *і я ніякай падтрымкі ад жыхароў Дубяжына не чакаю. А калі вам не падабаецца, то мяняйце межы гміны, далучайцеся да Орлі.*

— *Як вёска Крывая багатая, то ён яе ахвотна забірае ад Орлі*, — кажа адзін з прысутных на сустрэчы мужчын, — *а як мы бедныя, то мы яму непатрэбныя. Даў яшчэ і іншую параду. Калі вам войт не падабаецца, то абярыце лепшага. Спакойна, чаму не, міністры мяняюцца, а войт не можа?*

*Працяг на стар. 3*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Dopiero teraz wychodzą na jaw dokumenty, które dowodzą, że zrzucenie bomby atomowej na japońskie miasta nie było uzasadnione wysokimi stratami amerykańskimi w czasie zdobywania japońskich wysp, a jedynie chęcią zademonstrowania nowej broni. W ten sposób hekatomba dziesiątków tysięcy japońskich cywilów była na zimno zaplanowanym ludobójstwem.*

*(Polityka, nr 19)*

* * *

*Spontaniczna walka Białorusinów z niemieckim okupantem militarnie nie miała wielkiego znaczenia. Ale bolszewicy wykorzystali ją politycznie. Ruch partyzancki od samego początku był inspirowany i kontrolowany przez partię i czekistów przysłanych zza linii frontu. Za każdy zamach na Niemca, za każdy sabotaż Białorusini płacili życiem setek tysięcy zakładników — niewinnych ludzi. Jedyną ich winą było to, że mieszkali na Białorusi. Za zabójstwo gauleitera Kube, dokonane przez partyzantów, stracono 10 tys. zakładników — mieszkańców Mińska. W odwecie za działania partyzanckie Niemcy spalili setki białoruskich wsi.*

*Partia bolszewicka „sprywatyzowała” wobec świata zwycięstwo nad niemieckim faszyzmem. Głównym bohaterem wojny został pion polityczno-wychowawczy — te wszystkie rady wojenne, wydziały polityczne, komisarze i politrucy. Okazało się, że bez nich zwycięstwo byłoby niemożliwe. Pojawiło się także niemało pseudobohaterów. Niedawno TV pokazała jednego z takich bohaterów obwieszonych do pasa — w czasie wojny był prokuratorem wojskowym w armii. Sądził, skazywał na rozstrzelanie, posyłał do kompanii karnych za przewinienie lub za nic. Prokurator oświadczył, że niczego nie żałuje, bo osobiście nikogo nie rozstrzelał. 9 maja był na defiladzie jak prawdziwy bohater wojny,* — піша Васіль Быкаў.

*(Gazeta Wyborcza, nr 110)*

* * *

*Wyniki referendum na Białorusi są wyrokiem śmierci na kulturę i narodowość białoruską. Dla młodej państwowości białoruskiej to nieodwracalna tragedia, która mnie osobiście pogrążyła w żałobie*, — сказаў Сакрат Яновіч.

*(Gazeta Wyborcza, nr 93)*

* * *

*Ніхто з нашых суседзяў — ні рускія, ні ўкраінцы, ні палякі, ні літоўцы, ні латышы — не праводзілі ў сябе моўнага рэферэндуму і ніхто за гэта не назваў іх бескультурнымі ці нацыяналістамі. Для іх родная мова — гэта самы дарагі скарб, таму яна так шануецца і не падлягае аніякаму рэферэндуму. Моўны рэферэндум не праводзіла ніводная краіна Еўропы. Да моўнага рэферэндуму звярталіся толькі дзяржавы-метраполіі, каб „дэмакратычным шляхам” навязаць сваю мову, а разам з ёю каланізатарскі рэжым прыгнечаным народам. Пра правядзенне моўнага рэферэндуму ў Беларусі ўсе асобы, якія займаюць прэстыжныя высокія пасады ў дзяржаўным жыцці павінны ведаць, што выступаюць у ролі далакопаў беларускага Адраджэння,* — піша прафесар гістарычных навук Леанід Лыч.

*(Народная газета, н-р 85)*

* * *

*Nadchodzą straszne czasy — uważa pisarz białoruski Wasil Bykau. Niespodzianka na Białorusi zdarzyła się wcześniej, gdy do władzy doszła junta, która za pomocą swego aparatu, nazwanego „pionem prezydenckim”, uczyniła wszystko, aby wybory zmienić w farsę.*

*Borys Jelcyn natomiast pogratulował Aleksandrowi Łukaszence sukcesu w niedzielnym referendum.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 113)*

15 мая, дзень пасля рэферэндуму, мінскі сатрап загадаў зняць бел-чырвона-белы сцяг са свайго палаца. Нейкі тып з прэзідэнцкай „вертыкалі” па прозвішчу Ціцянкоў парэзаў нацыянальны сцяг пры акампанеменце воплескаў іншых паслугачоў Лукашэнкі.

* * *

*Pan Prezydent Wałęsa jest prezydentem specyficznym. I ludzie, którzy przychodzą z nim na spotkania, to rozumieją, nawet chcą go takim widzieć. Patrząc na Wałęsę w akcji, kiedy zachęca do inwestowania, kiedy udowadnia swą europejskość, nietrudno dostrzec, że jego bełkotliwe mowy, błędy, jego niekonwencjonalne zachowanie — to wszystko nie jest czymś najbardziej nas kompromitującym i odpychającym od nas.*

*(Przegląd Tygodniowy, 12.05.1995 r.)*

Калі ў беларускай прэсе напішуць такія словы крытыкі пра свайго прэзідэнта без боязі, што галоўны рэдактар і журналісты страцяць працу і забаронены будзе друк самога часопіса?

* * *

*Na przygotowanie dziecka przystępującego do pierwszej komunii rodzice wydają 10—20 mln. zł.*

*(Wprost, nr 21)*

Прынамсі з гэтай прычыны добра быць праваслаўным.

* * *

*Na terenach pomiędzy Bugiem a Narwią, poza okolicami Białowieży i Narewki, nie było ludności etnicznie białoruskiej, a więc nie mogło być białoruskiej kultury,* — піша Roman Wysocki.

*(Над Бугом і Нарвою, н-р 1—2; Pismo Związku Ukraińców Podlasia)*

Амаль цэлы нумар прысвечаны пошукам доказаў гэтага тэзісу і абвінавачанням беларускіх дзеячаў у нападках на ўкраінскую культуру, мову, песню, чаго прыкладам з’яўляецца, між іншым, спяванне „ўкраінскіх” песень на беларускіх фестывалях. Карацей кажучы — паводле дзеячаў Związku Ukraińców Podlasia — на Беласточчыне наглядаем цяпер хвалю беларускага імперыялізму. Савецкі беларус імкнецца стаць маскалём, беластоцкі беларус мае большы выбар, бо можа пераўтварыцца яшчэ ў агрэсіўнага ўкраінца, паляка або нейкага „рускага”.

* * *

*W historii nowożytnej Europy, a pewnie i świata, nie zdarzyło się jeszcze, aby jakiś naród dobrowolnie i w sposób demokratyczny zrzekł się własnej tożsamości i suwerenności. Tak było do czasu, kiedy Białorusini opowiedzieli się w referendum za rezygnacją z odrębnego godła i barw narodowych na rzecz sowieckich, za nadaniem językowi sąsiedniego państwa statusu języka urzędowego. Dla przedstawicieli innych narodów wydaje się to czymś niepojętym.*

*(Kurier Poranny, nr 112)*

Умом Беларуси тоже не понять!

# З мінулага тыдня

**У XIV Міжнародным фестывалі царкоўнай музыкі Гайнаўка’95** прыняло ўдзел 39 хораў з дзесяці краін свету. У ліку пераможцаў апынуўся хор **Дзяржфілармоніі з Гомеля**, які заваяваў першую ўзнагароду ў катэгорыі свецкіх прафесійных хораў (*пра фінальны канцэрт чытайце на стар. 1 і 9*).

**У XXIV Алімпіядзе школьнай моладзі**, якая адбылася ў Беластоку, выйгралі каманды дзяўчат з Пачатковай школы н-р 44 з Беластока і **хлопцаў з Пачатковай школы н-р 3 з Бельска-Падляшскага**. Юныя спартсмены з бельскай „тройкі” набралі 63 ачкі. А вось прозвішчы маладых легкаатлетаў, якія апынуліся ў авангардзе: **Данель Якуць** (2-ое месца ў бегу на 300 м), **Адрыян Троц** (2-ое месца ў бар’ерным бегу на 100 м і 2-ое месца ў кіданні кап’ём), **Раман Якушэвіч** (3-ае месца ў кіданні молата), **Тамаш Навумчук** (3-яе месца ў кіданні дыска). Бельская каманда заняла таксама 3-яе месца ў эстафеце 4 х 100 м.

**XVI Агульнапольскае паломніцтва моладзі на Святую Гару Грабарку** згуртавала 2200 пілігрымаў з краіны і замежжа. Падчас паломніцтва, арганізаванага Брацтвам праваслаўнай моладзі, юныя вернікі прымалі ўдзел у супольных малітвах, праводзілі дыскусіі ў групах, між іншым на тэмы малітвы, выхавання дзяцей, сям’і, сексу, адзінства Царквы. З моладдзю сустрэўся і на іх пытанні адказваў епіскап Вроцлаўскі і Шчэцінскі **Іерэмія**. Сярод замежных паломнікаў былі госці з ЗША, Канады, Грэцыі, Славакі, Венгрыі, Румыніі, Беларусі, Расеі, Узбекістана, а таксама некалькі хораў, якія ўдзельнічалі ў гайнаўскім фестывалі.

**На беларускім баку кантрольна-прапускных пунктаў Брузгі — Кузніца і Бераставіца — Баброўнікі** беларускім мытнікам спадарожнічаюць у працы расейскія таможнікі. Прысутнасць расейскіх мытнікаў на польска-беларускай мяжы — вынік пагаднення аб супольным кіраванні мытнымі службамі і супольнай ахове беларускай мяжы, падпісанага прэзідэнтамі РФ і РБ ў лютым 1995 г.

**З працай гранічных пераходаў у Кузніцы-Беластоцкай і Бабро‌ўніках** знаёмілася дэлегацыя Сената, якая пабывала на Беласточчыне. Сенатары асаблівую ўвагу звярнулі на ўмовы пашпартна-мытнага катролю і на варункі працы пагранічнікаў, мытнікаў і санітарных службаў. Госці цікавіліся таксама супрацоўніцтвам польскіх гранічных службаў з беларускім бокам.

**Ваяводская камісія аховы прыроды ў Беластоку** разглядала праекты мадэрнізацыі міжнародных дарог, якія пралягаюць праз тэрыторыю Кнышынскай пушчы, а менавіта: н-р 18 (у напрамку Саколкі і Кузніцы-Беластоцкай), н-р 19 (у напрамку Аўгустова і літоўскай мяжы) і н-р 66 (у напрамку Бабро‌ўнікаў). Сустрэча мела кансультатыўны характар. Чарговае спатканне ў верасні г.г. прысвечана будзе стварэнню праграмы мадэрнізацыі дарог і разбудовы новых кантрольна-прапускных пунктаў.

**Сеймавая Камісія аховы асяроддзя**, натуральных рэсурсаў і лясніцтва прапануе пабольшыць **Белавежскі нацыянальны парк** да 17 тысяч гектараў (раней прапанавалі 10 тысяч га, г.зн. падвоіць тэрыторыю парку, паколькі сёння яго плошча складае 5,4 тыс. га). Да павелічэння абшару БНП пераканала паслоў прадстаўніца Дзяржаўнай рады аховы прыроды, якая даказала, што паступовае пашырэнне парку будзе намнога цяжэйшае.

**Выбарчы штаб Яцка Кураня**, які будзе балатавацца на прэзідэнцкіх выбарах, **паўстаў у Беластоку**. Яго старшынёй стаў **Рышард Казлоўскі**, а намеснікам — **Аліна Хвалібуг** з Уніі вольнасці.

**Беластоцкія мастакі** распрацоўваюць праект помніка **ахвярам Вялікай Сінагогі**, якая была спалена ў чэрвені 1941 года. Будзе ён устаноўлены паміж вуліцамі Легіяновай і Сураскай, дзе часткова знаходзілася колішняя сінагога. Помнік узводзіцца на сродкі гарадскіх улад і Таварыства беластоцкіх і навакольных яўрэяў з Ізраіля.

# Праз тыдзень у „Ніве”

> Ці трэба баяцца кляшчоў? — разважае Пётр Байко.

> Першы дзень свабоды Ганны Фібік з Гайнаўкі — рэпартаж Міры Лукшы.

> Каханне і смерць у паэзіі Максіма Багдановіча.



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Пасля рэферэндуму

Вынікі рэферэндуму, які выкапаў магілу беларускаму адраджэнню і адкрыў шлях да аб’яднання з Расеяй, выклікала жывы водгук у суседніх дзяржавах. Партыя Грамадзянскі кангрэс Украіны (ГКУ) выступіла з заклікам да кіраўніцтваў Украіны, Расеі і Казахстана, каб услед за Беларуссю правесці рэферэндумы па пытаннях аб’яднання чатырох былых савецкіх рэспублік у адзіны палітычны, эканамічны і абарончы саюз. ГКУ выступае за аднаўленне эканамічных і культурных сувязей між рэспублікамі былога СССР, за дзяржаўнае двухмоўе і інтэграцыю з краінамі СНД. А Расейскі агульнанародны саюз (РАС) дабіваецца правядзення агульнарасейскага рэферэндуму аб уз’яднанні Расеі з Беларуссю. Па ацэнцы лідэра РАС Сяргея Бабурына, вынікі рэферэндуму ў Беларусі сведчаць пра неабходнасць паглыблення інтэграцыйных працэсаў.

## Рэакцыя Думы

Дзяржаўная Дума Расеі падтрымала ініцыятыву дэпутата Сяргея Бабурына, які прапанаваў на пасяджэнні палаты правесці ў снежні 1995 года ўсерасейскі рэферэндум па пытанні аб уз’яднанні Расейскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь у адзіную дзяржаву. Усе дэпутаты (за выключэннем аднаго, які ўстрымаўся) прагаласавалі за фармулёўку: „Даручыць парламенцкаму камітэту па заканадаўстве разгледзець падыходы да пастаноўкі пытання наконт інтэграцыі РФ з РБ”.

## Грошы з Пагоняй

Нацыянальны банк Беларусі не плануе выпускаць у 1995 годзе грашовыя знакі з неасавецкай сімволікай, якую зацвердзіў рэферэндум ад 14 мая. Па ацэнках экспертаў Нацбанка пераход на купюры новага ўзору мэтазгодны толькі пасля зносу банкнотаў, якія знаходзяцца сёння ў абарачэнні. На цяперашніх купюрах адлюстраваны герб незалежнай Беларусі Пагоня з бел-чырвона-белым сцягам. Правядзенне такой грашовай рэформы патрабуе не менш як 7 млн. долараў. На сённяшні дзень Нацыянальны банк не мае такіх сродкаў.

## Заключэнне наглядальнікаў

Міжнародныя наглядальнікі, якія сачылі за ходам выбараў і рэферэндуму, сканстатавалі, што для правядзення свабодных і дэмакратычных выбараў неабходна забяспечыць доступ выбаршчыкаў да інфармацыі аб палітычных праграмах, якія выстаўляюцца падчас перадвыбарчай кампаніі. Таксама неабходна, каб палітычныя партыі мелі доступ да рэспубліканскіх сродкаў масавай інфармацыі і актыўна ўдзельнічалі ў перадвыбарчай барацьбе. У Беларусі ў ходзе нядаўняй выбарчай кампаніі мас-медыі былі даступны толькі прыхільнікам прэзідэнта і ягонай каманды.

## Пратэст ПЭН-Цэнтра

Беларускі ПЭН-Цэнтр выказаў занепакоенасць з выпадку ўзбуджэння крымінальнай справы супраць галоўнага рэдактара газеты „Свабода” Ігара Гермянчука за апублікаванне ананімнага твора „Лука Мудзішчаў — прэзідэнт”, які праваахоўныя органы палічылі зняважлівым у адносінах да прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. У прынятай у абарону Ігара Гермянчука заяве беларускі ПЭН-Цэнтр падкрэсліў пра недапушчальнасць суда над літаратурай паводле крымінальнага кодэкса і выявіў сваю рашучую пазіцыю ў абароне правоў на свабоду творчасці ды інфармацыі.

## Польскі фестываль

У Лідзе прайшоў IV Рэгіянальны фестываль польскай песні. На ім з поспехам паказалі сваё майстэрства сямнаццаць самадзейных калектываў з розных куткоў паўночна-заходняй часткі Беларусі. Сярод гасцей былі: пасол Рэспублікі Польшча Альжбета Смулэк, першы сакратар пасольства Кшыштоф Дужэўскі, генеральны консул РП у Гродне Мар’юш Машкоўскі, прадстаўнікі культуры і мясцовай улады.

## Асаблівы прызыў

Да канца чэрвеня ва ўзброеныя сілы рэспублікі будуць прызваны амаль 25 тысяч юнакоў, якія не маюць права на адтэрміноўку і якім споўнілася 18 гадоў. Асаблівасць вясенняга прызыву заключаецца ў тым, што цяпер войска камплектавацца будзе толькі на тэрытарыяльным прынцыпе, гэта значыць, што прызыўнікі будуць служыць у часцях, якія размешчаны недалёка бацькоўскага дома. Ваеннаслужачыя атрымаюць магчымасць пастаянна кантактавацца з блізкімі, а гэта аказвае дабратворны ўплыў на настрой, павялічвае актыўнасць у службе, дапамагае лягчэй пераносіць яе напружанне.

## Вынік забруджання

Праз год пасля аварыі на шклозаводзе „Бярозаўка” Лідскага раёна, у час якой вялікая колькасць вады, забруджанай свінцом, кадміем і ртуццю, трапіла ў гарадскую сістэму водазабеспячэння, у дзяцей дашкольнага ўзросту пачалі выпадаць валасы. У некаторых выпадках выпаданне валасоў прывяло да поўнага аблысення. Пасля дакладнага абследавання ў больш як ста дзяцей Бярозаўкі лекары выявілі вялікую колькасць таксічных рэчываў у крыві і адставанне ў развіцці інтэлекту.

**У гэтым годзе ў Беларускі ліцэй у Гайнаўцы ўпершыню паступяць вучні, якія не вывучалі ў пачатковай школе ні беларускай, ні рускай моў...**

# АД „БУКВАРА” ДА... МАТУРЫ

У II Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы да матуральнага экзамену ў гэтым годзе прыступіла 59 абітурыентаў. Выпускнікоў двух аддзелаў чацвёртага класа было агулам 60 — адна асоба вырашыла не прыступаць да матуральнага выпрабавання.

Пісьмовыя экзамены ў гэтым годзе ўсе прайшлі паспяхова — і то даволі добра, як заўважыў дырэктар школы Яўген Сачко. З абавязковых прадметаў — беларуская і польская мовы, — было агулам **25** пяцёрак. З беларускай — 15, а з польскай — 10. Пяцёркі з трэцяга пісьмовага экзамену (выбар прадмету застаецца за вучнем) выглядаюць наступным чынам:

- біялогія — 1,
- гісторыя — 1,
- матэматыка — 3,
- нямецкая мова — 2.

Тэмы пісьмовага экзамена па беларускай мове былі наступныя:

*1. Вобраз жанчыны-маці ў творах беларускіх празаікаў і паэтаў.*

*2. Максім Багдановіч — гонар, але і боль беларускай літаратуры. Чаму?*

*3. У трылогіі Я. Коласа „На ростанях” ёсць наступныя словы: „Кожны народ мае свой гонар... А мы, беларусы, не адважваемся прызнацца ў тым, што мы — беларусы”. Ці ты згодны з гэтымі словамі?*

Некаторае сумненне навяла трэцяя тэма. У перакананні гайнаўскіх настаўнікаў, а таксама і дырэктара, не павінна яна з'явіцца на матуральным экзамене. Ёсць у нас шмат іншых, станоўчых, прыкмет, пра якія варта пісаць на экзамене, — адзначыў дырэктар Я. Сачко. — Трэба аднак заўважыць, — сказаў яшчэ дырэктар, — што ва ўсіх працах, якія я прачытаў, ніводзін вучань са словамі цытаты не пагадзіўся.

Што ж, выглядае, што абітурыенты сумненняў сваіх настаўнікаў не падзяляюць.

Інвестыцыі на школьным пляцы не спыняюцца. Рэкорда пабудовы гэтым разам не будзе, — паведаміў дырэктар наконт гімнастычнай залы. Ва ўжытак ад 1 верасня яна не пойдзе. Але ёсць затое гарантыі, што будуць грошы на крыты басейн, пабудова якога можа пачацца яшчэ ў гэтым годзе. Цяперашнія ўлады Гайнаўкі прыхільна ставяцца да інвестыцый у ліцэі.

Набор кандыдатаў у ліцэй праводзіўся ў гэтым годзе ў чатыры аддзелы. Агулам у ліцэі мае быць семнаццаць аддзелаў, г.зн. тры класы па чатыры аддзелы і адзін клас — пяць. Набор у пяць аддзелаў мае праводзіцца раз у чатыры гады — найбліжэйшы такі адбудзецца праз тры гады, бо якраз у мінулым годзе адукацыю ў ліцэі пачало пяць паралельных першых класаў. **У гэтым годзе месц у Беларускім ліцэі ўжо даўно няма** — у момант вусных матуральных экзаменаў у сакратарыяце ляжала 141 прашэнне. Тэрмін падачы заяў мінуў **15 мая. Месц у гэтым годзе — 120.**

*— Што будзе са звышлімітнымі кандыдатамі?*

— Правядзем уступны экзамен, — паведаміў дырэктар Я. Сачко, — без заліку якога немагчыма будзе паступіць у ліцэй. Калі б сталася так, што праз экзамен паспяхова пройдзе ўсё-таки больш кандыдатаў, чым ліміт месц у школе — зробім конкурс пасведчанняў з пачатковай школы. Будзем прызнаваць балы за ацэнкі па польскай мове, матэматыцы і... беларускай мове!

*— Ці значыць гэта, што вучні, якія вывучалі ў пачатковай школе беларускую мову, будуць мець больш шанц?*

— **Мы гэтага вельмі хацелі б, але тут не пагаджаецца Кураторыя асветы,** — сказаў дырэктар гайнаўскага Беларускага ліцэя Яўген Сачко. — Паводле Кураторыі ўсім трэба даць роўны шанц. У выпадку вучня, які не вывучаў беларускай мовы мусім прызнаваць яму балы за тую мову, якую ён у пачатковай школе вывучаў. А трэба сказаць, — дадаў яшчэ дырэктар, — што ў гэтым годзе ўпершыню ў ліцэй прыйдуць людзі, якія ў пачатковай школе не вывучалі ні беларускай, ні рускай моў.

*— Што з імі тут будзе?*

— Найперш, не сакрэт, трэба навучыць іх кірылічных літар. А ўвогуле, то мусяць яны ў чатыры гады прайсці шлях ад „Буквара”, праз гісторыю літаратуры, да матуры, — сказаў дырэктар Я. Сачко.

*— Ці змогуць?*

— Калі ўжо хто паступіў у нашу школу — не мае выйсця.

Дырэктар дадаў яшчэ, што няпраўдай з'яўляюцца меркаванні беластоцкіх дзеячаў, быццам у школе штосьці адбываецца не так. Наадварот, школа, уяўляючы высокі ўзровень навучання, вельмі добра служыць свайму асяроддзю, спрыяе павышэнню навучання беларускай мовы ў пачатковых школах Гайнаўкі. А гарадскія дзеці пачынаюць ужо пераважаць сярод кандыдатаў у ліцэісты (80 на 141).

**Аляксандр Максімюк**

# Ці будзе школа ў Дубяжыне?

*Працяг са стар. 1*

*— Ён у час першае кадэнцыі такі не быў,* — кажа іншы мужчына, — *а цяпер ужо сябе вельмі моцна адчувае ў крэсле войта, дык можа так з людзьмі абыходзіцца, быццам яму ніхто непатрэбны. Войт, я лічу, павінен быць адну кадэнцыю і хопіць.*

11 мая, настаўнікі і бацькі, зрабілі супольна яшчэ адну спробу ўратаваць школу. Напісалі ліст у Гмінную ўправу з просьбай яшчэ раз перагледзець справу і дапамагчы ва ўтрыманні школы: „Мы разумеем фінансавы разлік, але падымаемся мінімалізаваць кошт утрымання школы. Няма аўтобуснага спалучэння Дубяжына з іншымі мясцовасцямі, у такіх варунках давоз дзяцей — нерэальны. Наша школа, прыклад актыўнасці і супрацоўніцтва мясцовай грамадскасці. Будавалі мы яе з вялікім заангажаваннем. Бацькі адчуваюць сябе ашуканымі войтам, які на сходзе абяцаў падтрымку, а цяпер займае зусім іншую пазіцыю”.

Баліць іх тое, што сваю рэкамендацыю для ліквідацыі школы Гмінная ўправа дала без кансультацыі з бацькамі, а маглі б жа калі-небудзь запрасіць на пасяджэнне, або і прыехаць сюды, паглядзець, як працуе школа.

*— У нас няма так характэрных для іншых школ праблем,* — кажа дырэктарка, — *як выхаваўчыя цяжкасці, як пакіданне на другі год у тым самым класе. Усё гэта магчымае, дзякуючы індывідуальнай працы настаўнікаў з вучнямі. Нас тут невялікая грамада, дык і адносіны як у сям'і. І не ўлічваць такіх фактараў цяпер, калі існуе тэндэнцыя, каб школа была як найбліжэй дзяцей, гэта памылка. Не ўсё можна змерыць грашыма.*

Бацькі ў час сходу з удзелам войта прыдумалі яшчэ адзін аргумент за ўтрыманне школы.

*— Хацелі мы яму запрапанаваць, каб у нас залажыць Украіну, гэта значыць, каб увесці ўкраінскую мову ў школу,* — расказваюць мне. — *Але якасьці ніхто не адважыўся гэтага сказаць.*

*— Толькі найгорш тады было б у хаце,* — гаворыць высокі мужчына, — *бацькі беларусы, а дзеці ўкраінцы, то трэба было б два гаршкі варыць, бо ж з аднаго не елі б.*

Дубяжынцы ўсё яшчэ абнадзейваюцца тым, што няма канчатковага рашэння і яшчэ раз хочуць паехаць да куратара. А я хацеў папытацца войта, ці Гмінная рада не дала б падтрымкі намаганням бацькоў утрымаць школу.

— *W sprawie Dubiażyna nie mam nic do powiedzenia*, — **Юры Ігнацюк** выказаўся такой самай ветлівасцю, як і перад жыхарамі Дубяжына.

**Мікола Ваўранюк**

## Больш лепшых дарог

У Нараўчанскай гміне тамашнія ўлады многа ўвагі прысвячаюць мясцовым дарогам. Пачалі рамонт дарогі са Старога Ляўкова ў Лешукі. Тут на паўтарыкіламетровым адрэзку паклалі асфальт. Сёлета рамонт гэтай дарогі будзе прадаўжацца. Апрача таго ў Старым Ляўкове пабудавалі стаянку аўтамабіляў і тратуар перад вясковай святліцай.

Пабудавалі гравейкі (жвіроўкі) у вёсцы Тарнопаль ды ў Пасекі ад шашы з Альхоўкі ў Семяноўку, а таксама тратуары ў Нараўцы, Свінароях і ў Семяноўцы.

Адрамантавалі мост на рацэ Нараўцы каля хутара Кардон.

**(яц)**

## Ураджай турыстычных бюро

Дзіўная з'ява назіраецца апошнімі гадамі ў Белавежы. Турыстычны рух з году ў год нязначна паніжаецца, расце затое лік бюро па абслугоўванні таго ж руху. Да ўжо існуючых, г.зн. ПТТКоўскага, „Гулівера” Аляксея Грыгарука і „Эка-Тэа” Фёдара Ігановіча, у бягучым годзе далучыліся тры наступныя прыватныя бюро: „Зімародак” Яраслава Кісялеўскага, „Зялёны дом” Вольгі і Мірослава Дваракоўскіх і „Кемпінг Грудкі” Сцяпана Байко. А трэба яшчэ ўспомніць, што ад некалькіх гадоў абслугоўваннем спецыяльных груп — любіцеляў птушак — займаецца Паўночнападляшскае таварыства аховы птушак, якое сёлета адчыніла свой пункт у памяшканні па былым бары „Веймутка” (раней тут змяшчалася колішняе бюро „Тэрэса” Тэрэсы Валкавыцкай).

Найманне экскурсавода, наладжанне вогнішча і падобныя турысцкія паслугі можна таксама зрабіць праз пасрэдніцтва мясцовых рэстаранаў. Турысту толькі перабіраць!

**П. Байко**

# Новае выданне аб Белавежскай пушчы

Супрацоўніцтва паміж двума нацыянальнымі паркамі, што ў польскай і беларускай частках Белавежскай пушчы працягваецца. Адным з відавочных доказаў гэтага стала брашура „Беловежская пуща”, напісаная двума навуковымі супрацоўнікамі Дзяржаўнага нацыянальнага парку „Белавежская пушча” Вячаславам Семаковым і Міколам Чэркасам, а падрыхтаваная і надрукаваная Белавежскім нацыянальным паркам.

Брашура (на расейскай мове!) хаця на вокладцы мае пазначаны 1994 год выдання, у продажы паявілася толькі ў красавіку г.г. Яе тыраж невялікі — усяго 2 тысячы экземпляраў. Я думаю, што пацікавіцца ёю кожны турыст, які трапіць у беларускую частку Белавежскай пушчы, таму што толькі там яна прадаецца.

У брашуры аўтары коратка, але змястоўна, прадстаўляюць мінулае і сённяшні дзень Белавежскай пушчы. Асобны раздзел прысвячаюць яе сімвалу — зубру. Наканец падаюцца найважнейшыя для пушчы даты. Спісак адчыняе 983 год, калі пушчу ўпершыню ўпамінае „Іпацьеўскі летапіс”, а зачыняе год 1993, калі нацыянальнаму парку „Белавежская пушча” прысвоена статус біясфернага запаведніка.

Выданне праілюстравана 23 чорна-белымі здымкамі, выкананымі М. Чэркасам, В. Дацкевічам і С. Вінярскім, а таксама 8 графікамі В. Гарбатава, М. Ермаловіча, М. Наумовіча і А. Стралкова. Падборка здымкаў падумана так, што яны нейкім чынам дапаўняюць (супольна з надпісамі пры іх) тэкст брашуры. Польская чытача асабліва зацікавіць здымак помніка нацыянальнага героя генерала Тадэуша Тышкевіча (былога ўладальніка Свіслацкай пушчы, якая ўвайшла ў склад Белавежскай) і прыведзены змест высечанага на помніку мемарыяльнага надпісу.

На апошняй старонцы брашуры падаюцца факсіміле запісаў і аўтографаў у памятнай кніжцы некаторых важнейшых асоб, якія наведвалі Музей прыроды ў Камянюках. Гутарка тут аб маршалу авіяцыі А. Пакрышкіну, касманаўтцы В. Цярэшковай, кампазітаршы А. Пахмутавай і паэту М. Добранрававу (аўтарах папулярнай песні пра Белавежскую пушчу), песенніцы В. Талкуновай, дырэктару БНП Ч. Аколаву і кіраўніку адной з Белавежскіх навуковых станцый А. Сакалоўскаму.

У выданні звяртае яшчэ ўвагу арыгінальны загаловачны надпіс, перанесены з манументальнай працы Георгія Карцова, пад такім самым загалоўкам, выдадзенай у 1903 г. у Пецярбургу.

**Пётр Байко**




## Памылка і праўда

Чытаючы ў 19-м нумары „Нівы” ад 7 мая 1995 г. успаміны пра сям'ю Краскоўскіх пяра Алега Латышонка і Людмілы Краскоўскай кінуліся мне ў вочы два сказы. „Заплюшчваем вочы і бачым вечар як з Чыквіна. На зложаных дровах сядзяць: бацечка, яго сын, настаўнік, *кіраўнік пошты*, сяляне”. Гэта з тэксту Латышонка. А ў Краскоўскай: „Я прыгадваю як вечарам на двары ў дзеда сходзіліся сяляне, настаўнік, *кіраўнік пошты*, сядалі там на зложаных дровах і гутарылі аб розных справах”. Падзеі гэтыя адбываліся пры царскай уладзе, думаю што пры цары Мікалаі II. У царскі час у Дубічах-Царкоўных ніякай пошты не было, не магло быць затым і кіраўніка пошты. Школа была, але пошты дык нават пры санацыі яшчэ не было. Пошта ў Дубічах-Царкоўных паўстала ў 1951 годзе і змяшчалася яна ў прыватных дамах, перакачоўваючы між імі мо пяць разоў і спыніўшыся наканец у дзяржаўным „блёку”. Усё апошняе ў згаданых артыкулах праўдзівае, цікавае і блізкае. Цешыць сэрца тое, што род Краскоўскіх быў верны свайму народу і айчыне, хаця яе не было тады на карце.

**Мікалай Панфілюк**

 

# КРЭМЛЬ — ЗАДАВОЛЕНЫ

Вынікі рэферэндуму ў Беларусі далі расейскім кіраўнікам падставы лічыць гэту краіну часткай сваё імперыі. Задавальненне перамогай Лукашэнкі над беларускасцю выказалі прэзідэнт Ельцын, прэм'ер-міністр Чарнамырдзін і міністр замежных спраў Козыраў. Пратэктарат Беларусі аднагалосна — першы раз ад шасці гадоў — адобрыла расейская Дума. Галасавалі згодна расейскія дэмакраты, камуністы і фашысты.

Упершыню здарылася, што Расея падпарадкавала сабе нейкую правінцыю без крывавай разні, а толькі па волі мясцовага насельніцтва. Беларусы захацелі без клопатаў і турботаў мець цяпло і ежу. Цяпер нашы суайчыннікі за Бугам павінны быць шчаслівыя. Але ці будуць?

Лукашэнка разам са сваім расейскім акружэннем не маюць ужо „фашыстоўскай" (так называлі дэмакратаў) апазіцыі. Яна ў палітычным жыцці стане малаістотным фактарам. З кім тады будзе змагацца мэнскі сатрап? Каго абвінаваціць у нястачы хлеба, мяса, нафты, у развале гаспадаркі, у беспрацоўі і паблажлівасці для бандытызму? Пакуль што ўзяўся за беларускіх прадпрымальнікаў, што зразумелае, бо мусіць стварыць камфартабельныя ўмовы для дзейнасці сваіх расейскіх суайчыннікаў. На гэтым фронце ў Лукашэнкі не павінна быць сур'ёзных праблем. Беларускі бізнес вельмі слабы так фінансава, як арганізацыйна. Нейкія арганізацыйныя структуры толькі што пачалі стварацца.

У першую чаргу зараз пасля рэферэндуму прэзідэнт пачаў брутальную атаку на камерцыйныя банкі. Ленін, аказваецца, тут вечна жывы. Яго навука нават цяпер знайшла вялікага энтузіяста ў асобе Аляксандра Лукашэнкі. Цяжка аднак нават падазраваць, што гэты вучань славутага Ульянава мае якое-небудзь уяўленне пра банкавую сістэму, таму дзіўным становіцца ягонае змаганне з фінансава-крэдытнай сістэмай краіны, нават калі за яго плячыма стаяць расейцы. Для іх таксама знішчэнне гаспадарчых падстаў Беларусі павінна быць бяссэнсным дзеяннем. Маюць жа на гэтай тэрыторыі поўны так палітычны, як і эканамічны кантроль і на дадатак падтрымку аграмаднай часткі зманкуртызаванага беларускага народа. Але „Россию умом не понять". На жаль, рахунак за ўсе чужыя эксперыменты і гэтым разам заплацяць беларусы, ці можа ўжо расейцы беларускага паходжання.

рэд.




Droga Redakcjo!

Kilka dni temu byliśmy w Starych Puchałach. Był tam również bardzo szanowany przeze mnie Wasz Redaktor. Żałuję, żeśmy się z nim nie domówili i nie otrzymałem od niego adresu. Muszę w związku z tym korzystać z adresu Redakcji. Darujcie mi, że piszę po polsku.

Wracając do tej miejscowości Stare Puchały i tego okolicznego lasu, to należy stwierdzić, że to nie jest las, to jest cmentarz ludzi prawosławnych. Wystarczy kopnąć na głębokość 30-40 cm, a już kości i czaszki ludzkie. Gdy byliśmy tam, to przyszło 2 miejscowych i powiedzieli: "pokażemy Wam gdzie kopać" i pokazali. Zaczęli nasi kopać i odkryli następny masowy grób. Oni pokazywali i inne miejsca, lecz tam już nie kopano. Jest to, Droga Redakcjo, Katyń w RP. Mordowano tu po zwierzęcemu, obuchem, kolbą karabinu, aż do pełnego rozbicia czaszki ludzi całkowicie niewinnych. Mordowano tylko dlatego, że nie byli katolikami i w obliczu śmierci nie chcieli się wyrzec ani narodowości białoruskiej, ani też wiary prawosławnej. Jedyny ocalały z tej rzezi furman w rozmowie ze mną powiedział: "ich zabijali ci bandyci, którzy siedzieli na każdej furze". A na każdej furze siedziało siedmiu bandziorów. Nie strzelali, żeby daleko nie było słychać huku wystrzałów. Ludzie ze wsi Puchały mówią, że w ich wiosce było słychać jęki mordowanych.

Powstaje tylko pytanie, ile trupów jeszcze jest zakopanych w puchalskich lasach. Dariusz Fikus pisząc o tych bandytach jak o bohaterach w książce "Pseudonim Łupaszka", napisał, że w lasach koło wsi Stare Puchały była centralna baza AK okręgu Białystok. Napewno takie morderstwa odbywały się tam bez przerwy. Zachodnie rejony Białostocczyzny gdzie zawsze była ludność mieszana, są obecnie wolne od elementu białoruskiego. Można powiedzieć, że las Stare Puchały jest prawosławnym cmentarzem. Najprawdopodobniej nigdy nie dojdziemy, ilu prawosławnych Białorusinów tam zamordowano. Parafie prawosławne w wielu wioskach zachodnich rejonów zlikwidowano, księgi poniszczono i ślad zaginął.

Wydaje mi się, że do lasu w Puchałach Starych powinny chodzić pawosławne pielgrzymki ze wszystkich cerkwi. To ogromne cmentarzysko napewno jest tego warte. Nie powinniśmy zapomnieć ofiar szowinistycznego barbarzyństwa i ludobójstwa, które zgodnie z postanowieniami ONZ ratyfikowanymi przez Polskę nie ulega przedawnieniu.

**Teodor Golonko**
**Warszawa**

Ад рэдакцыі: У Пухалах быў замардаваны брат аўтара ліста, Аляксей Галёнка, як адзін з фурманаў, узятых у палон атрадам „Бурага". Было яму тады 15 гадоў.

# Этнічнасць — праблема сучаснага свету

Хто б спадзяваўся, што Дацкі інстытут культуры ў Гданьску (пры вуліцы Піўнай 36/89) сарганізуе вельмі цікавы семінар на тэму: „Этнічнасць — праблема сучаснасці". Дырэктар Інстытута Альдона Шыфман ладзіла яго 12—14 мая г.г. у клубе „Мэствін" у Гданьску. Апошнім часам наглядаецца павышанае зацікаўленне рознымі этнічнымі і нацыянальнымі меншасцямі ў Еўропе, якая імкнецца аб'яднаць разнастайныя народы кантынента ў супольную арганізацыю.

Данія таксама мае свае этнічныя групы, якія пражываюць у Грэнландыі. Пэр Лянгард, Біргітэ Сонэ і Брэйнгальт Лярсэн прачыталі рэфераты пра грэнландскія пытанні.

Дзякуючы дакладам навукоўцаў з Інстытута этнаграфіі і антрапалогіі Варшаўскага універсітэта і Польскай акадэміі навук, удзельнікі семінара пазнаёміліся са складанымі праблемамі на этнічным пагранічы Польшчы і Беларусі. Праблемы этнічных груп у Прыбалтыцы паказалі ў сваіх рэфератах Рэмігіюс Блімас з Педагагічнага інстытута ў Вільні, Лёрэта Кузіцкайтэ з Віленскага універсітэта, Тэму Карма з Універсітэта ў Рызе, Кэрсці Бойко з Латышскай акадэміі навук.

Інфармацыю пра нацыянальныя меншасці ў Гданьскім рэгіёне перадалі Пётр Паўлішчэ з Саюза ўкраінскай моладзі і Анна Іванюк, якая прадстаўляла беларускае асяроддзе. З праблемамі нямецкай моладзі ў Польшчы пазнаёміла Эва Счыжэўская, аб татарах расказаў Сэлім Хазбіевіч, а аб яўрэях — Маргот Пісарэвіч.

Пётр Паўлішчэ коратка ахарактарызаваў пазадзяржаўныя арганізацыі ў Польшчы, залічыўшы ў іх састаў усе таварыствы і іншыя арганізацыі нацыянальных меншасцей. Звярнуў ён увагу, што гэтыя арганізацыі павінны карыстацца грашовай дапамогай Фонду Еўрапейскай Уніі „PHARE".

У сваім дваццацімінутным выступленні Анна Іванюк коратка аднеслася да далёкай мінуўшчыны дваццатых гадоў гэтага стагоддзя, калі ў Гданьску затрымаліся дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі, а Браніслаў Тарашкевіч меў у Сопаце тайную кватэру, у якой канспіратыўна спатыкаўся з арганізатарамі Грамады. Пасля апошняй вайны ў Гданьск прыбылі эмігранты з Беларусі, беларусы, якія, каб вырвацца з-пад таталітарнай улады, запісаліся палякамі, і такім спосабам маглі эміграваць як рэпатрыянты. Тут на месцы мянялі яны свае імёны і прозвішчы, каб НКУС пры дапамозе УБ не распазнала іх, не вярнула назад і не вывезла далей, у Сібір. Усё гэта прычынілася да страты нацыянальнай свядомасці сярод іхніх дзяцей і ўнукаў. Другая хваля беларусаў хлынула ў раён Гданьска пад канец пяцідзесятых і ў шасцідзесятыя гады. Ехалі яны сюды перш за ўсё „за хлебам". Вялікая агламерацыя, розная прамысловасць стваралі ім магчымасць уладкавацца тут і запусціць карані. Пад канец шасцідзесятых гадоў паўстаў аддзел Беларускага грамадска-культурнага таварыства, да якога належала больш чым сто членаў. Інтэграцыйную ролю сярод беларусаў адыграла царква св. Мікалая ў Гданьску. Зараз актыўнасць гэтага асяроддзя знізілася. Беларусам у 1991 годзе забралі памяшканне, якое ствярала ўсе ўмовы для актыўнай культурна-асветніцкай дзейнасці. Адстунасць фінансаў не дазваляе разгарнуць крылы і цудам трэба лічыць тое, што яшчэ мы існуем як арганізацыя.

Эва Счыжэўска з Саюза нямецкай моладзі ў Польшчы паінфармавала ўдзельнікаў, што іх арганізацыя з сядзібай у Вроцлаве існуе ад 1992 года і гуртуе 109 груп з усёй Польшчы. Галоўнай яе мэтай з'яўляецца захаванне роднай мовы, знаямленне моладзі з нямецкай культурай.

Маргот Пісарэвіч паставіла адкрытае пытанне: Хто складае яўрэйскую грамадскасць? Колькі яўрэяў у Польшчы? Як можна быць яўрэем у Польшчы, калі яўрэі з Ізраіля гавораць, што сапраўдныя яўрэі павінны жыць у Ізраілі? Маладыя яўрэі не хочуць выязджаць з Польшчы. Не ведаюць яны яўрэйскай мовы (так як маладыя беларусы ў Польшчы беларускай), але адчуваюць сябе напалавіну палякамі і напалавіну яўрэямі.

Падчас семінара выступіў Юзэф Бажышкоўскі — гданьскі віцэ-ваявода, кашуб, які коратка азнаёміў прысутных з сітуацыяй гэтай групы.

Ініцыятыва Дацкага інстытута культуры — вельмі карысная задума для пашырэння сярод народаў Еўропы інфармацыі пра сітуацыю і праблемы „іншых" сярод тутэйшых.

**Міхась Куптэль**

# Скарадзінскі пра Беларусь і беларусаў

10 мая г.г. у Гістарычным музеі ў Беластоку з дакладам пра польска-беларускія адносіны ў апошніх гадах выступіў вядомы каталіцкі публіцыст Багдан Скарадзінскі. У час ваеннага становішча выдаў ён у падпольным выдавецтве пад псеўданімам Казімеж Падляскі кніжку „Białorusini, Ukraińcy, Litwini — nasi wrogowie czy bracia?" Пасля 1989 г. кніжка, ужо афіцыйна, перавыдавалася некалькі разоў.

Скарадзінскі — прадстаўнік тае невялікае часткі польскай інтэлігенцыі, якая глядзіць на мінулае, сучаснасць і будучыню свайго народа, адкідаючы сентыментальна-літургічна-рамантычнае самазахапленне ў культуры, гістарыяграфіі, публіцыстыцы і палітыцы.

Шмат гадоў прапагандуе ён сярод польскіх інтэлектуалаў думку, што Польшча мае найбольшыя шанцы захаваць незалежнасць, калі яе суседзямі будуць незалежныя Літва, Беларусь і Украіна. Сто разоў паўтараў, што не варта хвалявацца, калі з боку гэтых народаў плывуць найгоршыя закіды ў адрас палякаў. Найважнейшае, каб гэтыя народы былі самастойнымі. Лепшая для Польшчы — паводле Скарадзінскага — патрасаючая кулаком на Варшаву Літва ці Беларусь, чым „сябdroўская ручка" працягнутая з Масквы.

— У Беласток я прыехаў, — заявіў Скарадзінскі, — заінтрыгаваны „пратэстам" (была гэта „заява") беларускіх арганізацый у Польшчы, накіраваным прэзідэнту Беларусі. Хаця гэты „пратэст" незаконны, бо такім чынам грамадзяне Польшчы ўмешваюцца ў справы суседняй краіны, і недэмакратычны, бо выступаюць яны супраць дэмакратычна выбраных там улад, я прыняў яго вельмі прыхільна, — сказаў госць з Варшавы. — Упершыню беларусы Беласточчыны пратэставалі не супраць польскай палітыкі, а супраць таго, што робіцца ў Менску. Беларусы набраліся польскай хваробы, якая падказвае ім пратэставаць пры кожнай нагодзе.

— Калі нехта пытае мяне пра выбары ў Беларусі — адказваю, што няважнае хто стане там пераможцам. Дэмакраты няма ў Польшчы, тым больш не варта шукаць яе ў Беларусі. Справа найважнейшая ў адчуванні народа, ці ён хоча існаваць як народ, а хто стане прэзідэнтам, ці міністрам, бачым на прыкладзе Польшчы, што гэта мала істотнае. Адзін чалавек не ў стане знішчыць нацыянальную ці грамадскую свядомасць. Акупацыя для беларусаў — гэта нічога новага. Але апошнім часам атрымалі яны непаўторны шанц стварыць сваю дзяржаву, — прадаўжаў Скарадзінскі. — Найгоршае аднак тое, што ідэю незалежнай Беларусі адкідаюць самі беларусы. Паводле сацыялагічных даследаванняў 63 працэнтаў насельніцтва Беларусі хоча вяртання Савецкага Саюза. Калі не хочуць свае дзяржавы беларусы, то хто мае ім яе будаваць, — пытаўся Скарадзінскі і зараз дадаў: — Суседзі, у тым ліку і палякі, не з'яўляюца анёламі і беларусы павінны пра гэта памятаць.

— Палякі павінны саромецца толькі таго, што за апошнія пяць гадоў не зрабілі нічога, каб дапамагчы беларусам, а наадварот, выканалі шмат жэстаў ім непрыхільных. Дарэчы, цікава было б пабачыць захаванне палякаў, калі б напрыклад, хтось запрапанаваў нам стаць пяцідзесятым штатам ЗША і ўзамен толькі за ліквідацыю арла і бел-чырвонага сцяга абяцаў пару тысяч долараў у месяц, — разважаў Багдан Скарадзінскі. — Але праблема Польшчы гэта не пытанне, што зрабіць з Расіяй, але што зрабіць з сабою. Толькі хлусні, крывадушнасці, дурноты падчас усялякіх афіцыйных святкаванняў прымушаюць задумацца, што далей з нашай свядомасцю. Але гэта праблемы зусім іншыя, чым у Беларусі.

Інфармацыю пра сустрэчу з Багданам Скарадзінскім і тэму яго выступлення надрукавала беластоцкая прэса. Слухачоў сабралася аднак няшмат. Апрача журналістаў і асоб, пра прафесію якіх можна толькі здагадвацца, прыйшло толькі некалькі чалавек. Беларуская тэма ў Беластоку не зацікавіла ні палякаў, ні беларусаў.

**Яўген Мірановіч**



 

# БЕЛАВЕЖА

*СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 425*

*Рэдактар: Сакрат Яновіч*


*Сакрат Яновіч*

## Даўганогая Лань

Віця Крывая Шыя не вылазіў з тае Амерыкі, пакуль яго маці тут не пачала канаць. Яна так і аддала б сама адна Богу душу, без анікога каля сябе, калі б не паштальён, што прынёс ёй рэнту ды не змог дастукацца ў дзверы да яе, каб пусціла з марозу ў хацінку. Хлопец гэты падумаў, што — у ранні зазімкам адвячорак — бабулька баіцца таго бандыта, пра якога кажуць: прывалокся аднекуль з-пад Варшавы дзеля рабункаў пакінутых у самоце глушы мужычак... Выявілася потым — ляжыць, нябога, у надырдыганеным логаве галодная, недагледжаная. З пошты далі тэлеграму Віці ў Чыкага, па вядомым з пісьмаў адрасе. І ён, даволі хутка, з'явіўся сюды.

Як толькі ўехаў быў у Польную вулачку, да маткі, адразу зрабілася ў тым закутку святлей яксьці... Вузкі брук заняла даўжэрная ды ясна-блішчастая яго аўтамашына; сонечныя праменні, што ў распагаднелую замаразь прастрэмваліся праз гушчавіну векапомных дрэваў, распырскваліся ад яе тулава казачнай кузакі дарагімі каменьчыкамі, рассыпаючыся ў паваленых платах, у купах высахлага лапушніку, у стаўбунах чартапалоху. Сыпаліся, зіхотка, і сыпаліся! Ехаў ёю асабіста Віця Крывая Шыя, не з парожнімі рукамі і не адзін. На прывязі ззаду гайдалася на калдобінах паўнюткая прычэпа, пакрытая брызентам, а за пярэдняй шыбай сядзела поруч яго маладая баба, але дзівоснае пароды (падобную можна было дагэтуль пабачыць у амерыканскіх кінафільмах пра індзейцаў). Пазайздравалі Віцю ўсе: дарослыя — доларнай яму Амерыкі, кабеты — дарагіх у яго пачак, кавалеры — шыкоўнага аўто, дзецярня — таемнае пры ім індзейкі (нагадвала здатную Даўганогую Лань у чэйенаў). Смольнага вобліку госціца з валасамі, бы мяцёлка ў камінара, паказала сябе, аднак, асобаю прыветнай, хоць, бі-забі, незразумела гергетлівай.

Даўганогая Лань і ён, Крывая Шыя, усякага зажылі абое, застаўшыся потым са старою. Вішчала, каб Віця не пакідаў яе, родную маць, сам-насам з прывезеным нялюдскім дзівам! Як ні прасіў-маліў радзіцельку не дурэць, яна ўсё роўна лезла на сцену, калі Даўганогая Лань мякка падступалася ў макасінах да ейнае пасцелі, з дбайлівым доглядам. Заклінаў усімі святымі гэту сялянскую хрышчаную язычніцу, што ўсенькія людзі свету вартыя раю, будзь яны мардатымі манголамі, ці прыплюшчанымі кітайцамі, або лупатымі неграмі, недарослымі пігмеямі... Сівому дурылу, але, убіўся ў памяць каторысьці фільм у тэлевізары, з заюшанымі скальпамі, злупленымі з вестэрнаўскіх беленькіх каланістак з высокімі чубамі, з сінімі бантамі...

Віця Крывая Шыя не быў з тых, хто схільны на ўступкі недадумкам з курынымі мазгамі! Належыў таму чалавечаму падгатунку з прыроднай інтэлігентнасцю, які, чамусьці часцей, сустракаецца ў байстручкоў (з іх Віця, менавіта). Памаўчаў ён, памаўчаў, злосна зіркаючы на ўчарнелую ад векавой запушчанасці мацерку і пальнуў:

— Бо ажанюся з разводнай Чаркесавай Лёляй-Лойкаю!

Маці вытрашчылася ад гэтых яго словаў і цалкам разумна адказала:

— Сынок, лепей ужо бяры гэту, што маеш, пляскатую, горш з ёю табе ані мне не будзе, — і яе вочы ўперліся некуды ўбок, дзе, відаць, стаяла за ім, Крывою Шыяй, Даўганогая Лань са сваімі нерухомымі зрэнкамі-вугалькамі на — месяцавай прыгажосці — бондзе аблічча з рыхтык уціснутым носам ды расцягнутым на два горла ротам. Рашыўшыся, нарэшце, намагалася палюбіць новаз'яўленае стварэнне, з біблейскага занебакраю як бы. Не ўдалося, бо адвярнулася зараз, уздыхнула, але, аднак жа, адчуў Віця, што зноў паднатужыцца, калі не сёння нават, дык заўтра. Дзякуючы Лёлі Чаркесянцы, усё ж, каб яна так здаровая была і ніколі не даведалася пра тое. Яшчэ паненкаю хадзіла Лёлька з дзедавым кінжалам за паясніцаю, і ці раз парэзала каторага кавалера на музыках (за што, вядома). У яе каля печкі таракан за тараканам бегаў, і бегае, як і трэба ў нямытай лойкі. Муж удаўся ёй палахлівым — адважны, пэўна, узяў бы іншую — і, вось, выгнала яго, вольнай аднова стала. Яе бацька тым часам не дае рады выплакаць у Бога лёгкую смерць сабе.

Крывашыіха, замест памерці, ажыла. Даўганогая Лань падсыпала, неўпрыкмет ёй, у ежу сушаных зёлкаў. назбіраных у Вялікім Каньёне, што налева ад даўнейшага шляху ў Сакрамента (з расою і ў поўню). Ад выпадку, калі Даўганогая Лань надумала сама агледзець мясціну, Віця Крывая Шыя нікуды не пускаў яе. Ейную ўвагу тады прыцягнуў славянскі мардабой п'яных, але недапоеных, у нацыяналізаванай рабоча-сялянскай уладаю „Карчме". Біліся, як заўсёды, дзеля тлумачэння адзін аднаму, хто каму вінаваты літроўку: ставіў той, які столькі даставаў укаплех, што падымалі яго на ногі, дружна трымаючы пад пахі і дапамагаючы яму намацаць кашалёк, засупонены ў капшуку падшытым, зазвычай, пад левую палу кажуха. Гэтай, славутай у ваколіцы, гульні тутэйшых мужчынаў навучыў, яшчэ за першымі палякамі, казацкі прыблуда, што ўцёк быў ад бальшавікоў, недабоек з Белай Гвардыі. Як і пры картах, лічылася засранствам заходзіць у „Карчму" неганаровым дарэмнікам.

Якраз у такі, блізкі зазёванай згоды момант, задыхана ахвачаны клубаваннем натоўп знямеў, быццам балванамі на лёдзе застыўшы: бронзавым манументам узвысілася, погразам у расхлябешчаным у прыцемак увахо-дзе, Даўнагогая Лань! Усяляк пасля распавядалі пра тую хвіліну і падзею, але галоўнага, што счаўплося, Віця Крывая Шыя здагадаўся са словаў аслупянелай ад убачанага Даўганогай Лані ледзь трапіўшай дахаты.

— Я бачыць поўна чалавек і я не бачыць поўна чалавек!.. Цуд! Дух Маніту ўзяць усе чалавек!.. Акно трэсь — акно няма!.. Многа-многа акно няма, адно акно а чалавек многа, другое адно акно а чалавек больш!!. Я прыйшла бачыць і я не бачыць, многа-многа зад бачыць, а зад усюды зад, у Амерыцы зад, у вас зад... Стандарт зад, зад ёсць таталь-зад, інтэрнэйшл...

Цэлаю знайшлі пасля жалезную крату, што мацавала аканіцы знадворку ў барык; прытарабанілі яе назаўтра дзеці — гулялі ў снежкі на выгане. Аказалася гэта не самым значным рэкордам адлегласці і цяжкавагавага высілку. Самавіты, пацямнелы, стол для півашнікаў, які ледзьве краналі з месца, счапіўшыся між сабою, буяны валяўся цяпер чамусьці за хляўчуком з публічнай прыбіральняй; дубовы і навек аклінаваны, ні трохі не пашкодзіўся. Прыкідвалі мясцовыя цвярознікі, якая сіла заперла яго туды, а ці нячыстая... Чыгунны саган для гатавання каўбасаў з квашанай капустаю ў закусь гарэлчыным братам ушчэнт прапаў, вуха ад яго высачыў чыйсьці смургель, на суку сухое вярбы цяляпалася... Чайнік са свістком, венгерскі, пагудваў, бы пугач ноччу, на самюткай верхавіне тае сухастоіны, што зусім немагчыма тлумачыць звышлюдскімі здольнасцямі вярнуць у сабе першародную малпу. Скандал (суд за шкоду) вісеў над Віцем на валаску. Паратунак яму, кажуць, сышоў з нябёсаў: кожны, каго клікалі на міліцэйскі допыт, прысягаўся чырванеючы, што ў той перадвечар акурат не выходзіў з хаты... Жанкі заядла пасведчвалі. Вазьмі прызнайся, то спытаюць, хто і што знёс на сваім гарбе, бы сабака кошку, разбіў, зніштожыў, нарабіў стратаў... Падлічаць плаціць.

Даўганогую Лань зненавідзіла не маці ўжо і не Чаркесянка, а Барадатая Нюта, якая, у польскую прыватызацыю, думала была набрацца акцыяў „Карчмы". Гешэфт ляснуў, будыніне спатрэбіўся б грашавіты рамонт, мабыць, капітальны. Тэхнічны агляд выявіў, што зрушылася тыльная падруба і пакасіліся філянговыя дзверы. Самым клапотным падаўся пакрыўлены ад таго часу комін, у чым жартаўнікі прывінавацілі саму Барадатую Нюту: джгаючы ад Даўганогае Лані, вішчала на вецер ды перлася ў хлебную печ, што ў карчомнай кухні, і ў такой позе выкарысталі там крутлявую Нютку, бы ваякі ў фронт, старакавалеруючыя ананісты... Як ні як адчайныя хлапчугі! Але, прытрымліваючыся неплятkарскіх фактаў, нагадаю дадатковую шкоду: асеў вугал фундамента, што аброс чарнаслівам. Якіясьці зладзюгі--валацугі раней падкопваліся пад падлогу там, дзе склад гарэлкі.

Віця Крывая Шыя шпарка вярнуўся ў Амерыку, дапільноўваць бізнес. Даўганогая Лань пакуль што засталася з яго старою. Здаравела маці на працяглае жыццё. Не марудзячы завельмі, выехалі і яны, абедзьве, за Віцем. Да вясны ад хаткі Крывое Шыіхі тырчэлі, ага, ужо адны камяні і гліняная печка, паразмываная адлігоццем, перадвясновымі дажджамі. Па Вялікадні, усё роўна што ў запозненае развітанне, зацвіў — недаламаны тубыльцамі — куст белага бэзу, у паненскім некалі агародчыку.

## Новыя кніжкі

Выйшлі з друку новыя кніжкі *белавежцаў*: зборнічак каля сарака вершаў Міры Лукшы *Ёсць*, пад рэдакцыяй Яна Максімюка ды ў графічным афармленні вядомага віцебскага мастака Алеся Пушкіна, і *Лістоўе* — творы Сакрата Яновіча, выбраныя Тэрэсай Занеўскай і пад рэдакцыяй Яна Чыквіна, а графічна аформіў выданне Лёнік Тарасэвіч (паралельна змешчаны польскія пераклады іх, зробленыя шматлікімі пісьменнікамі ў розныя перыяды творчасці Яновіча).

Абедзьве кніжкі можна набыць у сакратарыяце рэдакцыі *Нівы*.

*Віктар Швед*

## АЛЯКСЕЙ ПЯТРОВІЧ

*(Апавяданні з маёй маладосці)*

Адгрымела першая сусветная. З фронту вярнуўся жыхар Мора Аляксей Філіманюк зусім абрусеелым. Звяртаўся ён да ўсіх толькі на рускай мове і наказаў, каб зваць яго па бацьку — Пятровічам. Растраціў быў бацькоўскую хату і агарод і, не маючы дзе жыць, упрасіўся ў майго бацькі ў тую пустуючую хату Віктара, брата майго дзеда, што не вярнуўся з „бежанства" ў Расею.

Запамятаўся мне Аляксей Пятровіч як рослы, здаровы, прыстойны, пажылы ўжо мужчына з румянымі шчокамі, з сівымі вусікамі і такой жа казлінай бародкай, з лысеючай, таксама сіваю, галавою. Хадзіў нязменна ў карычневым вайсковым шынялі з бліскучымі гузікамі, з выявай на іх двухгаловага арла. Меў прыгожы голас, асабліва любіў спяваць прывезеную з вайны рускую песню „Стенька Разин". Часта слухаючы яе, запамятаў я з дзяцінства гэтую песню.

Пятровіч быў здольным столярам. Зрэдку, аднак, прымаў заказы. Адным словам, не надта хацелася яму працаваць. Не ажаніўся ён, сцвярджаючы: „Я не смогу содержать ещё одно лицо". На пытанне, як намерваецца жыць, вульгарна адказваў: „На мой век дураков хватит. А в общем то я не надеюсь долго жить".

Жыццё падрыхтавала Пятровічу сюрпрыз. Давялося яму дажыць да глыбокай старасці і ў страшэннай бядзе. Пакуль меў сілы мог зарабіць на кавалак хлеба. Пасяліўся ў старой, запушчанай, хаце, якая без догляду пачала падгніваць. Працякала саламяная страха, пад акном у паўночнай сцяне прагніла бэлька і ўтварылася дзірка, якую мы, вясковыя жэўжыкі, выскублі да памеру свайго цела, каб праціснуцца ёю ў сярэдзіну. Вельмі было нам цікава паглядзець на сцяну ў хаце, поўнасцю завешаную гэблямі і гэблікамі, ад велізарнага да найменшага. Прылады былі так выпрацаваны, што здалёк блішчэлі і можна было ў іх праглядацца, як у люстры. Аднак жа найбольш цікава было паглядзець, як Пятровіч спіць у халоднай хаце. Паліць у печцы не было ў яго чым, ніхто не прывёз яму з лесу дроў, ды і абагрэць хату, дзіравую, як рэшата, немагчыма. Пятровіч паўтараў вядомую рускую пагаворку: „Держи голову в холоде, брюхо в голоде, а ноги в тепле". Каб можна было гэта здзейсніць, Пятровіч прапальваў стружкамі ў хлебнай печы і, калі печ крышку ўнутры абагрэлася, упіхаўся нагамі ў тую ж печ, падсцілаючы сабе пад бокі стружкі, што заставаліся пасля вырабу розных прылад з даверанага яму сялянамі дрэва. Цікава было нам і паглядзець, як менавіта выглядвала з печы на прыпечак сівая, з бліскучай лысінай, галава Пятровіча, згодна з яго прыгаворкай: „Держи голову в холоде..." Пятровічаў жывот знаходзіўся ў голадзе амаль пастаянна. І, калі Пятровічава галава варушылася на прыпечку, мы, жэўжыкі, праціскаліся хутка праз дзірку вонкі, расказваючы потым сваім бацькам якім спосабам спіць Аляксей Пятровіч.

Як-небудзь гаравалася Пятровічу, пакуль меў ён дах над галавою. На жаль, сястра дзеда, што жыла ў вёсцы Горнае пад Гайнаўкай, адсудзіла ў майго бацькі будынкі брата і неўзабаве іх папрадала. Аляксей Пятровіч ад тае пары стаў бяздомным чалавекам і бадзяўся па вёсцы. Ніхто не хацеў яго прыгарнуць. Ніхто, уключна з яго сваякамі, не ўзяўся дагледзець старэчу да смерці.

Нечакана выбухнула другая сусветная. Прыйшла да нас тады перш Чырвоная Армія, якая прынесла на сваіх штыхах лозунг: „Кто не работает, тот не ест". І калі б не спачувальны вясковы солтыс, давялося б Пятровічу сканаць галоднай смерцю. Солтыс забавязаў усіх карміць па чарзе і прымаць на начлег бяздомнага Пятровіча. Як на іронію лёсу, хоць не намерваўся ён доўга жыць, пераваліла яму за восемдзесят. У той час, калі не меў чаго есці, заядалі яго вошы і, замест плаціць сялянам за харчаванне грашыма, плаціў ён ім заўсёды агіднымі вашыма, пакідаючы іх удосталь пасля такога начлегу. Калі Пятровіч начаваў у нашай хаце, выходзіў днём у клуню, здымаў з плеч адзіную, якую меў, кашулю і выгортваў з яе вошы проста на ток.

Гітлераўцы напалі на Савецкі Саюз. Наблізіўся фронт. Аляксей Пятровіч топаў, як блудны, па вёсцы. Потым выявілася: шукаў ён смерці. Наш сусед адмовіўся прыняць дахаты і накарміць вашывага начлежніка. Аляксей Пятровіч, знерваваны да крайнасці, пайшоў на яго панадворак і ў адчаі ўваліўся ў студню. Выцягнулі бусакамі са студні тапельца і вычарпалі па ім усю ваду. Пахавалі Аляксея Пятровіча, як вялікага грэшніка, што зрабіў замах на ўласнае жыццё, без труны і за магільнай агароджай.

Ніхто асабліва не шкадаваў Аляксея Пятровіча. Сяляне доўга паўтаралі: — Як гэта добра, што нарэшце патапіліся дакучлівыя вошы...

# Зорка
## старонка для дзяцей

### Каханыя дзеці, сябры нашай дзіцячай старонкі!

З выпадку Міжнароднага дня дзіцяці жадаю Вам самых пяцёрак і шасцёрак у школе, незабыўных канікул, перамог у нашых конкурсах і самых удач на працягу ўсяго года.

**Ганна Кандрацюк**

## СВЯТА ДЗЯЦЕЙ

Міжнародны Дзень Дзіцяці,
Чэрвеньскі цудоўны дзень.
Свята ў школе, свята ў хаце,
Сонца цёплы шле прамень.

Расцвілі прыгожа кветкі,
Луг-дыван заве здалёк.
Як жывыя кветкі дзеткі
Цешаць нашы сэрцы, зрок.

Даражэйшым што ж на свеце,
Што ж быць можа прыгажэй,
Чым жамчужыначкі-дзеці,
Чым усмешкі ўсіх дзяцей?

Хочуць як найлепш вучыцца
Дзеткі — прышласці залог.
Хочуць імі ганарыцца
Мама, тата, педагог.

Нашы дзеці і ўнучаты —
Скарб бясцэнны нашых хат —
Вас вiншуем з вашым Святам,
Шчасця вам жадаем шмат!

**Віктар Швед**



*"Князь Уладзімір". Малюнак Пётра Дзямянюка — вучня V класа Пачатковай школы ў Чыжах.*

## Вучнёўская творчасць

### Вясна

Прыйшла да нас вясна.
Прыгожая яна.
Прынесла многа кветак,
пасклікала птушак,
абудзіла прыроду,
пасадзіла кветкі і траву,
снег з дрэў зняла,
сонца абудзіла,
і свет змяніла.

**Аня Ткачук**

### Вясна

Прыйшла вясна-прыгажуня.
Засмяяўся цэлы свет.
Птушкі галасна спяваюць,
а дзеці на двары гуляюць.

**Цэзар Хіліманюк**

### Прыйшла вясна

Прыйшла вясна,
прыгожая, квітнеючая.
Вясна-красна на ўвесь год.
Прыйшла раненька,
узышла на ганак
і ў хаце зазвінеў
спеў жаваранкаў.
На дварэ ўжо лісце расце,
Не злічыш яго, не бярыся;
Я больш як за сто налічыла.
Зніклі аблокі, неба смяецца,
Дзеці гуляюць, гром раздаецца.

**Юліта Вяршко**

### Вясной

Вясна зіму прагнала,
Усіх снежных баб спужала,
Вельмі многа адмяніла,
Звяроў у лесе разбудзіла.
Трактар гамоніць ужо на полі.
Збожжа сеюць у наваколлі.

**Аня Аўсянюк**

### Вясна

Я люблю цябе, вясна —
Птушак спеў, клёкат буслоў.
Прыгажуня ты мая,
Ты заўсёды будзь са мной.

**Мажэна Жменька**

*Усе аўтары вершаў пра вясну — вучні класа IV „е" Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім. На здымку бачым, як яны гуляюць у „Вясну".*
**Фота Г. Кандрацюк**



Пішуць школьнікі

**Дарагая „Зорка"!**

Мяне завуць Юліта Яканюк. Вучуся ў VI класе Пачатковай школы ў Орлі. Мая настаўніца называецца Анна Шыманская. Я вельмі люблю беларускую мову. На ўроках мы чытаем „Ніву" і часам складаем вершы. Я напісала трохі вершаў пра вясну і лета. Хацела б я, каб мае вершы з'явіліся на Тваіх старонках. Я буду Табе дасылаць мае новыя вершы.

**Юліта Яканюк**
**Крывая**

**Вясна-Прыгажуня**

Прыйшла Вясна-Прыгажуня,
засыпала ўвесь свет морам кветак,
адагнала марозную зіму,
разбудзіла да жыцця прыроду ўсю.
Ночы пакарацелі,
дні падаўжэлі,
травы зазелянелі...
Вясна-Прыгажуня ўпусціла ў край птушкі,
адкрыла вуллі з пчоламі...
Знае ўжо кожная муха,
што прыйшла Вясна-Прыгажуха!

**Лета**

Мінула вясна,
настала цёплая пара.
Цёплая вада ў рэчцы,
ніхто не сядзіць на печы,
лётаюць камары,
ніхто не спіць у нары!
Сонца ярка свеціць,
радуюцца дзеці...
Вучні канікулы маюць,
а ў садзе фрукты даспяваюць.
Знаеш, калі дзеецца гэта?
Не? Ах, летам, толькі летам!

**Ад рэдакцыі:** Каханая Юлітка! Прачытаўшы твае вершы, я стала марыць пра канікулы. Хто ж іх не любіць, праўда, дзеці? І асабліва калі пахнуць яблыкі, вада ў рэчцы цёплая, а навокал мора кветак! Як у тваіх вершах! „Зорка" вельмі цешыцца, што пішуць да яе такія дзеці, як ты. Можа напішаш больш пра сябе, сваю вёску, сяброў? Абавязкова дашлі свой здымак і адрас. Ад сёння Ты — сяброўка нашай старонкі і ўдзельнічаеш у штомесячным конкурсе „Зоркі".

**„Зорка"**

## МОЙ САБАЧКА



**Дарагая „Зорка"!**

Я глядзела на свайго сабачку і заўважыла, што ён смешна круціць хвастом і падымае вушка. Пра яго я склала вершык.

### Сабачка

— Эй, сабачка, падбяжы!
Не ляніся, пакажы,
Як сваім хвастом ты круціш,
Адным вушкам варушыш.
Пакажы, сабачка мой,
Вочкам міргані, як свой.
Ты не хочаш мне міргаць?
Ты не хочаш паказаць,
Як хвастом сваім ты круціш,
Адным вушкам варушыш?
Я ўжо знаю, што табе:
Пойдзеш на лужок сабе.



Я пасылаю табе, „Зорка" малюнак майго сабачкі і свой здымак. Я думаю, што далей буду дасылаць Табе мае вершы.

**Бася Ляўчук,**
**вёска Крывая,**
**Пачатковая школа**
**ў Орлі, VI клас**

**Ад рэдакцыі:**
Я як жа называецца гэты жартаўнік-сабачка? Думаю, што гэта зацікавіла б усіх дзяцей. Многія з іх вельмі хацелі б мець такіх сяброў-сабачак. Я таксама! Твой ліст, Бася, вельмі мяне ўцешыў. Перадай прывітанні сваім сябрам з класа і вёскі. Можа пра іх напішаш у „Зорку"? А, можа, зробіце гэта ўсе разам?

**„Зорка"**

# Дзеці з IV „е”

Не часта здараюцца такія сустрэчы, якую падарылі „Зорцы” вучні з бельскай „тройкі”. Я маю на ўвазе дзяцей з IV „е” класа (на здымку) і іхнюю настаўніцу Валянціну Бабулевіч. Ужо даўно хацелася мне сустрэцца з гэтым класам. Справа ў тым, што вучні з IV „е” вельмі часта ўдзельнічаюць у нашых конкурсах, пішуць пра свае справы, здарэнні, урэшце, цудоўна спяваюць беларускія песні. Сярод іх ёсць Юліта Вяршко і Юлія Навумчук — славутыя салісткі дзіцячай эстрады. Да таго амаль палова класа спявае ў бельскіх „Журавінках”.

Тады я таксама мела прыемнасць паглядзець і паслухаць п’есу „Вясна” ў выкананні вучняў. Дзеці пераапрануліся ў тэатральныя касцюмы сваёй работы. Сваім выступленнем захапілі мяне да слёз. Відаць адразу, што яны кахаюць беларускую мову і сваю настаўніцу, спадарыню Валянціну Бабулевіч. Але не толькі на сцэне дзеці выяўлялі свае таленты. Спадабалася мне перш за ўсё тое, што многія дзеці ўмелі гаварыць на беларускай мове. Аня Аўсянюк і Міхась Сцепанюк з гэтага прадмета атрымалі шасцёркі. А клас не абы-які, у ім аж трыццаць дзяцей. Аня чытае так выразна і прыгожа як настаўніца. У будучыні дзяўчынка хацела б стаць выкладчыцай матэматыкі. Гэты прадмет яна вяла б на беларускай мове. У класе ўсе дзеці праявілі энтузіязм для такой прапановы.

— О! Пагоня! — узрадаваўся Чарак Хіліманюк з першай лаўкі, калі пабачыў мой фотаапарат. У IV „е” ўсе дзеці ведаюць, што гэта Пагоня. Яна разам з бел-чырвона-белым сцягам, упрыгожвае іх клас. У зале — прыгожыя народныя экспанаты: ручнікі, сарочкі, сельскагаспадарчыя прылады. Самі дзеці збіралі гэтыя каштоўнасці. Аказваецца, што амаль усе мае новыя сябры ўмеюць размаўляць „па-своему”. Так у нас многія называюць палескі дыялект, які выступае між іншым у наваколлі Бельска. Пэўна таму дзеці не маюць вялікіх клопатаў з беларускім літаратурным вымаўленнем.

Згаданы Чарэк ганарыцца і тым, што яго продкі родам з Мора і таму ён вельмі любіць вершы свайго „аднавяскоўца” Віктара Шведа ды іх вывучае на памяць. Іншыя дзеці таксама.

Калі толькі хлопец сказаў пра паэта, дзеці прыгадалі, што вельмі хацелі б наладзіць аўтарскую сустрэчу з Віктарам Шведам. Таксама мараць пра супольнае маляванне з Лёнікам Тарасэвічам. Крыўдна было б забыцца пра такіх дзяцей. „Зорка” таксама будзе заўсёды памятаць пра сваіх новых сяброў.


*Аня Аўсянюк, Міхась Сцепанюк і настаўніца Валянціна Бабулевіч.*

І пэўна вы, дарагія чытачы, хацелі б часцей сустракацца з гэтымі дзецьмі. Тады будзе вельмі прыемна, калі нашыя чацвёртакласнікі самі напішуць пра свае справы, „Журавінкі”, экскурсіі.

Да наступнай сустрэчы, сябры!

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**



# КОНКУРСНАЯ КАЛОНКА

**Увага, дзеці!**

Рашэнне штомесячнага конкурсу „Зоркі”.

У нашым конкурсе прымалі ўдзел усе дзеці, якія напісалі ў „Зорку”. Сярод іх ёсць нашыя паэты, празаікі, дзеці якія пішуць пра сябе і свае справы, рысавальшчыкі, складальнікі крыжаванак і ўдзельнікі тэматычных конкурсаў.

У гэтым месяцы ўзнагароды атрымоўваюць:

**I. Магнітафонныя касеты з беларускімі народнымі казкамі:**
1) **Міхась Сцепанюк** з Бельска
2) **Цалінка Глагоўская** з Гданьска
3) **Бася Ляўчук** з Крывой
4) **Андрэй Куптэль** з Гайнаўкі
5) **Аня Краўчук** з Бельска.

**II. Гадзіннікі з Пагоняй:**
1) **Бася Асіпюк** з Чыжык.

Усіх лаўрэатаў сардэчна віншуем і запрашаем далей супрацоўнічаць з нашай дзіцячай старонкай!

**„Зорка”**

# НОВЫ КОНКУРС!!!

„Зорка” абʼяўляе конкурс на анекдоты ў наш „Вясёлы куточак”. Пераможцы могуць атрымаць вельмі цікавыя ўзнагароды — касеты з беларускімі казкамі, а старэйшыя вучні — касету рок-гурту „Брага”. Таму ў адказах не забудзьце пазначыць свой клас або ўзрост і падаць дакладны адрас.

Сардэчна ўсіх запрашаем!

**З-ка**

# *ЛЕГЕНДЫ БЕЛАСТОЦКАЙ ЗЯМЛІ*

## Гандляр і чорт

Калісьці, як казалі нашыя дзяды па водле аповедаў сваіх дзядоў, па магілах якіх ужо нават і знаку на цвінтарах няма, чэрці такое над людзьмі чаўплі, што аж страх і казаць. Вось хоць бы з тым гандляром на гасцінцы з Гацькоў у Райск.

Раней валачыліся такія гандляры з вёскі ў вёску не так купляючы ці прадаючы, бо ў тыя часы грошы рэдка ў сялянскія рукі траплялі, колькі абменьваючы на соль, запалкі, іголкі, фарбы, сахарын, самыя танныя цукеркі — „ляндрынкі”, простенькі посуд, сякое-такое прыладдзе па гаспадарцы. Гэтыя скарбы мянялі яны на яйкі, масла, сыр, куры, гусі, скуры і іншую тадышнюю сялянскую вытворчасць.

Ну і апынуўся адзін з такіх гандляроў з поўнай фурай набытку якраз побач з пагоркам Замак, на якім, кажуць, нешта страшыла.

Лета. Поўдзень. Прыпякала сонейка. Гандлярова кляча валаклася нага за нагою, адбіваючыся хвастом ды галавою ад слепакоў і бомкаў. І гандляр не тое, што заснуў, але так сабе, здрамнуў на адно вока.

Ажно ні з сяго ні з таго як закруне віхор, як загудзе ў прыдарожных вербах!.. Ачнуўся гандляр і атрупянеў: з яго кашоў ды каробак яйкі самі ляцяць уверх і адно на другім становяцца... Праз хвіліну ці дзве ўсе сталі тоненькім стоўбікам: першае ў пяску, на конскім следзе, апошняе ж недзе ў хмарах схавалася.

— Ай-вай! Ай-вай! — залямантаваў гандляр. — Прапаў увесь мой здабытак... А-ай-ай!..

А тут як не загудзе, як не засвішча і — гоп! — перад ім сам чорт на край драбінок сеў ды кажа:

— Як аддасі мне сваю душу, ніводнага яйка не страціш...

Гандляр аж анямеў ад нечаканасці, а калі ачуняў, пачухаў патыліцу ды паскроб пэйсы і давай да нячыстага падлізвацца:

— Ну, чорціку, міленькі...

А той як скочыць да яго:

— Я табе зараз як чарцяну, дык цябе і твая жонка не пазнае!

— Ай, ай, паночку, — залапатаў гандляр, — але як жа ж я без душы жыць буду?

А чорт яму на тое:

— А нашто табе душа? Яна і так у цябе без патрэбы ў грудзях пакутуе — ты ж усіх бяздушна абдзіраеш ды ашукваеш!

Гандляр падумаў-падумаў і пытаецца:

— Пане, а вы мяне не абдурыце?

А нячысты на тое:

— Ведаеш: у мяне сумленне не гандлярскае! Даю вось табе чэснае чартоўскае слова, што ўсе яйкі цэленькія ў кошыкі вернуцца!

— Ну дык няхай на тым і стане, — мовіць гандляр. — З маёй душой, праўда, адна марока: я па свеце бадзяюся — пра дабро дбаю, а яна мяне ўсё дакарае і дакарае, што чужым мазалём нажываюся...

Дʼябал свіснуў, і ўсе яйкі, быццам па нітачцы, з паднебʼя скаціліся і ў кошыкі ды каробкі цалюсенькія паклаліся. Нячысты ж тым часам скочыў да грудзей гаспадара, выдзер з іх сэрца, схапіў у кіпцюры і павалок у пекла.

Схапіўся гандляр за акрываўленыя пустыя грудзі, дыхнуў раз, дыхнуў другі і тут жа сканаў.

Конь дарогу ведаў і сам на падворак вярнуўся з поўным возам дабра ды з нябожчыкам-гандляром.

Вось як бывала тое калісьці. А цяпер па-іншаму ўсё пайшло: і тыя чэрці недзе пераваліся, адно толькі ашуканцы розныя па вёсках швэндаюцца, што табе ад іх ні ўпыну ні ўгону няма!..

**Пачуў і пераказаў**
**МІКОЛА ГАЙДУК**

# РАДЗІМА —РОДЗІНА

### Частка XII

Цяпер буду цытаваць выказванні пра Радзіму жыхара вёскі Багнюкі Сцяпана Багнюка, які памёр у 1994 годзе. Нягледзячы на пажылы ўзрост, чалавек гэты захоўваў да канца цвярозы розум, яго разважанні мелі рацыянальны характар. Сцяпан Багнюк належаў да таго тыпу людзей, якія ахвотна дзеляцца сваёй інтэрпрэтацыяй свету. Яго разважанні часта выходзілі за межы паняцця Радзіма, але ніколі не адрываліся ад таго кола праблем, якія непасрэдна датычаць многааспектнага жыцця беларусаў у Польшчы. Сцяпан Багнюк быў чалавекам пісьменным. Чытаў польскія газеты і беларускую „Ніву". Быў першым жыхарам вёскі Багнюкі, які зараз пасля вайны купіў радыёпрыёмнік. Калі паявілася тэлебачанне, купіў тэлевізар і, як сам сказаў, „ніколі ні прапусціў ні аднаго дзенніка". Цікавіўся не толькі жыццём беларусаў у Польшчы, але таксама Савецкім Саюзам, а пасля яго распаду — незалежнай Беларуссю, Нямеччынай і Амерыкай. У сваіх поглядах быў ён паслядоўны, але не ўпарты. Умеў не толькі гаварыць, але і слухаць. Часта задаваў пытанні і ўважна слухаў адказаў. Размовы з ім я праводзіў у 1992 і 1993 гадах. На працягу многіх гадоў Сцяпан Багнюк пасля смерці жонкі і выезду ў горад дачок жыў самотна. Ніколі аднак не стаўся адлюдкам. Гарнуўся да людзей. Да канца жыцця штодзённа галіўся, незалежна ад таго ці выбіраўся да людзей, ці аставаўся ў хаце. У маёй удзячнай памяці захоўваю яго як добрага беларуса, чалавека адкрытага, разумнага і шчырага. Вось фрагменты яго выказванняў:

„То, значыцца, інцерасуе цябе родзіна. Калі так прызнацца, то я спецыяльно аб ёй ніколі ні думаў. Але калі разабрацца, то думаў аб родзіні цэлэ жыцє. Ну бо як ні будзеш аб ёй думаці, калі тут нарадзіўся, тут ажаніўся, тут пагадаваў дзіцей і тут памрэш? Тут цэлэ жыцє прашло. Але я табе, Аляксандэр, скажу так, аб гэтай родзіні то думаеш найчасцей тады, калі волею чы ніволею жыце цябе ад гэтае родзіны адрывае. Ну а я то быў адорваны ад нашаго кутка два разы. Раз то быў малым хлопцом з мацэраю ў бежанстве ў Расеі ў першую міравую вайну, а другі раз — калі папаў у німецкі плен і сядзеў у лагеры.

То я табе скажу так, што зусім па-другому думаеш пра свой край, тады, калі ў ім жывеш, а па-другому, калі ты ад яго адарваны.

Калі мы ў 1915 року пакінулі Багнюкі і заехалі аж у Сібір, то я, хоць і быў яшчэ малым хлопцом, але ні было ні аднаго дня, у каторым я ні падумаў бы пра Багнюкі, пра нашу хату, пра падворок, пра нашэ поле і пра рэчку Нарву. І хібо ні было нават аднаго такога дня, каб я ні спытаў мацеру, калі мы вернемся ў Багнюкі. Ну і ўрэшце ў 1922 року вярнуліся. Вярнуліся, а тут ні кала ні двара. Галыдня страшна! Але трэбо сказаці, што было много грыбоў, ягад, лебеды і рыбы. От то яны нас і трымалі пры жыці. Елі вельмі мало, працавалі много і вельмі памалу разжыліся. Але цэлы час у санацыйнай Польшчы жылі слабо. Найбольша радасць была, калі выгадавалі вялікаго бычка, прадалі жыдам і купілі коніка. От ад таго часу пачалося крыху лёкшае жыце.

Ну, але цябе інцерэсуе родзіна. То я табе скажу, што калі мы былі ў Сібіры, то мне здавалосе, што лепшае і харошчае зямлі як наша багнюцка німа нідзе на свеці. А ты знаеш, Александэр, што калі мы ужэ вернулісе у Багнюкі то аказалосё, што тое, што здавалася такое харошэ, то не вельмі харошэ. Зрэштаю, ні да харaства было, калі цэлы лета жылі ў прогаладак. Ну, але знаеш, я тады быў маладым здаровым чалавеком і якое памаленьку разжыўся.

А другі раз у свaім жыці то я папаў у беду тады, калі разбілі нас немцы і я трапіў у плен. Сядзеў у лагеры. Гаварылі, што ў нашым лагеры сідзеў сын Сталіна, здаецца, Якуб. Але после то яго забралі з нашаго лагера і, здаецца, што яго расстралялі. Я табе скажу так, што чым больша ў чалавека бяда ў чужым краю, то тым больш ён думае пра родзіну і больш яе любіт. А бачыш то у мяне была такая сытуацыя, што я пакінуў у Багнюках жонку з малымі дочкамі. То што там гаварыці, ні было такое мінуты, каб чалавек ні думаў пра хату, пра гаспадарку, пра жонку, і пра дзяцей. Бо гэто ж яны былі тою родзінаю, без каторае жыці чалавекаві ні можно. Ты знаеш, што ўсе пленные аб нічым іншым ні гаварылі толькі аб родзіне. А якіх там людзей ні было? Хіба з цэлаго свету былі пленные і кажды з іх як толькі дарваўсе да голасу, то расказваў пра родзіну. І як жэ ж усе мы хвалілі і сваю зямлю і сваю гаспадарку, і сваіх жонок, і сваіх дзяцей! Ну адным словом выходзіло з гэтых разгавораў, што у каждого з нас то найлепша родзіна на свеце.

**Алесь Барскі**

# Тарасэвіч у Беластоку

11 мая ў беластоцкай галерэі „Арсенал" адбылося ўрачыстае адкрыццё выстаўкі Лявона Тарасэвіча. Падзея сталася бліскучым здарэннем у культурным жыцці Беластока. Сярод наведвальнікаў былі сотні паклоннікаў таленту мастака.

— Мае беластоцкія выстаўкі характэрны і тым, што прыходзяць на іх сябры, знаёмыя, ранейшыя або пазнейшыя ворагі. Мала на іх прафесійнага асяроддзя. І таму такія мерапрыемствы ёсць свайго роду сямейным святам, — сказаў жывапісец.

За простымі словамі Тарасэвіча, як і за ягонымі працамі, распасціраецца аднак неабсяжны свет сучаснага мастацтва. На адкрыццё выстаўкі з'явіліся такія персоны жывапіснага свету як Клес Нордэнгакэ, уласнік прыватнай галерэі, які ад дзесяці гадоў арганізуе выстаўкі Тарасэвіча ў Швецыі і на Захадзе, Міляда Слязінская, куратар замежных выставак Варшаўскага цэнтра сучаснага мастацтва, што на Замку Уяздоўскім, артыстычнае асяроддзе Беластока, прадстаўнікі свету палітыкі, літаратары, многія журналісты прэсы і тэлебачання. Сёння асоба Тарасэвіча з'яўляецца для многіх сімвалам чалавека поспеху. Не часта здараецца сустрэць мастака, які без-упынна ад дзесяці гадоў удзельнічае ў сусветным галерэйна-музейным жыцці.

„Пра жывапіс найпрыгажэйшая размова тады, калі карціны вісяць побач сябе на сцяне і ўзіраюцца ў глядача, а глядач стаіць і ўзіраецца у карціны", — сказаў аднойчы Лявон Тарасэвіч.

— І калі ёсць магчымасць і месца, як у выпадку „Арсенала", тады і гэта дапамагае камунікатыўнасці твораў, — сказаў жывапісец.

Салоны „Арсенала" складаюцца з трох частак. Калі ўваходзіш крутой лесвіцай на гару, дзе калідор, мімавольна перасякаеш парог сярэдзіны. На дадатак маніць яна адкрытасцю і быццам кліча зайсці ў свае нутро. Насценны пейзаж — палоскі кантрастных колераў, на сутыку мяжы паляжвання ясным колерам, сваім паслядоўным паўтарэннем накідаюць гледачу свой рытм. Ён становіцца часткай пейзажу і мімавольна шукае выхаду. Дзеля хвіліннага пачуцця палёгкі ўзіраецца ён у вокны, адкуль красуецца палац Браніцкіх.

Аднак, неўзабаве глядач ідзе спаднаць апошняе і тут яго чакае шакіруючы тупік. Насцярожвае ён не толькі формай, вострым вуглом пейзажу, але і спалучэннем чырвонага і зялёнага колераў. Збіты з панталыку глядач мае зрабіць выбар — або пaглядзець відэафільм пра мастака, або чым хутчэй пакінуць галерэю і пашукаць спакою. Але і там не адступае яго віраванне галавы і новыя роздумы пра пабачанае і перажытае.



*На адкрыцці выстаўкі. На першым плане: Моніка Шэўчык, Магдалена Гадлеўская-Сіверская і Лявон Тарасэвіч.*

Маштаб выстаўкі, апрача згаданых гасцей, вызначае і месца прэзентацыі. Беластоцкі „Арсенал" наводзіць найлепшыя асацыяцыі. Тут хочуць паказваць свае працы паўсюдна прызнаныя мастакі.

— Прысутнасць такога класа мастака як Тарасэвіч павышае ўзровень нашай галерэі і папаўняе яе і так ужо не малое творчае багацце, — сказала ва ўводным слове Моніка Шэўчык, гаспадыня галерэі.

У Беластоку Тарасэвіч ладзіць сваю выстаўку ўжо трэці раз. Сённяшняя прэзентацыя паказвае сучасны этап творчасці.

Спадчына дзесяцігоддзя знаходзіцца ў Бытаме, дзе трывае персанальная выстаўка мастака. Неўзабаве, бо ўжо 24 чэрвеня, у час святкавання 50-цігоддзя ліцэя ў Супраслі, будуць паказаны першыя працы Лявона Тарасэвіча.

— Гэта будуць рысункі мамы, малога Томка, Элі, людзей, якія садзяць бульбу, дзяўчын, якія кахаў у тым часе, — дадаў Лёнік.

* * *

— Думаю, што ўсіх цешыць і тая асаблівасць, што мастак заўсёды ў сваёй творчай біяграфіі называе месца Валілы, мясціну з беластоцкага краявіду, — адзначыла куратар гэтай выстаўкі Магдалена Гадлеўская-Сіверская. Сам Тарасэвіч, усхваляваны да слёз, падзякаваў усім гасцям за прысутнасць. Многія таксама адчулі тое ж, калі мастак загаварыў па-беларуску. Гэтае здарэнне хоць на хвіліну дапамагло забыцца пра адвечнае пачуццё непаўнацэннасці беларуса. Дзякуючы мастаку, беларуская інтэлігенцыя мела нагоду пераЖыць пачуццё нацыянальнай гордасці. Сказанае здавалася б недарэчным дадаткам да свету мастацтва, але сам жывапісец сказаў аднойчы сваім землякам з Гарадка: „Сваю творчасць і славу, заўдзячваю перш за ўсё Вам і гэтай зямлі".

**Ганна Кандрацюк**

# Гэта айчына выехала ад нас

У канцы красавіка г.г. у Голдапе адбылася сустрэча прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей пражываючых у Польшчы з палякамі пражываючымі ў замежжы. Канферэнцыю арганізавалі Фонд „Польшча ў Еўропе" супольна з Цэнтрам палітычнай адукацыі са Шлезвіга-Гольштэйна. Нямецкі партнёр выбраны невыпадкова: у гэтым ландзе пражывае многа датчан, якія пасля многіх гадоў дабіліся поўнага палітычнага і культурнага раўнапраўя. Тое самае датычыць і нямецкай меншасці ў Даніі. Прадстаўнікі гэтых дзвюх меншасцей атрымалі нагоду прадставіць на канферэнцыі сваю дзейнасць. Гэта вельмі зацікавіла іншых удзельнікаў сустрэчы, якія падкрэслівалі, што знаходзяцца ў сходным пункце і цікава ім пазнаёміцца з тымі, якія ўжо прайшлі гэты нялёгкі шлях. Трэба прыгадаць, што немцы і датчане будуюць сваё суседства на працягу больш ста гадоў.

Канферэнцыя была арганізавана так, што кожнаму прадстаўніку меншасці ў Польшчы партнёрам у дыскусіі быў паляк з дзяржавы іх нацыі: палякі сустракаліся з літоўцамі, украінцамі і немцамі. Ідэя гэтая, прадухіляючы аднабаковасць выказванняў, прычынілася да лепшага ўзаемнага зразумення ўдзельнікаў канферэнцыі. Прынцыпы дзейнасці нацыянальных меншасцей вызначаюць у асноўным двухбаковыя пагадненні Польшчы з дзяржавамі, якія меншасці лічаць сваімі айчынамі. Асноўнай праблемай сваёй дзейнасці меншасці лічаць навучанне на роднай мове. Культурная дзейнасць не выклікае такіх клопатаў. Прадстаўнікі меншасцей наракалі на доступ да медыяў. Меншасная прэса, фінансаваная ў вялікай меры дзяржавай, мае невялікі тыраж і, з увагі на мову, не даходзіць да польскага чытача. Праблематыка меншасцей незаўважальная ў радыёвяшчанні а асабліва ў тэлебачанні. Удзельнікі канферэнцыі падкрэслівалі, што адносіны польскай большасці да меншасцей могуць змяніцца толькі ў выніку лепшага ўзаемапазнання. А гэта можна здзейсніць толькі ў школьнай адукацыі і ў мас-медыях.

Высновы з канферэнцыі будуць напраўлены ў сеймавыя камісіі і прадстаўнікам урада. Найважнейшай з іх удзельнікі сустрэчы палічылі прыняцце закону аб нацыянальных меншасцях, а таксама павелічэнне сродкаў, якія прызначаюцца на асвету і школьныя падручнікі. Важнай справай з'яўляецца таксама фінансаванне дзяржаўнай меншасных асяродкаў культуры. На тэрыторыях кампактнага пражывання меншасцей павінна быць уведзена магчымасць карыстання роднай мовай ва ўстановах. Бо хаця кожны ведае польскую мову, аднак свядомасць таго, што можна аформіць справу і на роднай мове стварае пачуццё прабывання на сваім, родным. Бо, як сказаў пасол Генрык Кроль ад нямецкай меншасці, гэта не мы выехалі з айчыны, толькі айчына выехала ад нас.

Ад удзельніка канферэнцыі Віктара Марка Лейка запісаў

**Андрэй Гаўрылюк**

# ФІНАЛЬНЫ КАНЦЭРТ

*Працяг са стар. 1*

хор з Бялграда мог падабацца за арыгінальнае, сучаснае выкананне кампазіцыі свайго дырыжора Аляксандра Спасіча. Суседзі бялградцаў, балгарскія харысты з Казанлыка пры выкананні аднаго з твораў карысталіся электроннымі інструментамі. У другім творы, кампазіцыі візантыйскай эпохі з VIII стагоддзя, сольная партыя гучала быццам казачны спеў Шэхерэзады перад царом Шахрыярам.

Самую прэстыжную ўзнагароду Фестывалю атрымаў хор Гомельскай філармоніі. Здавалася б, што Гомельшчына, якая сталася месцам найбольшай трагедыі другой паловы XX стагоддзя, папала ў стан нейкай гібернацыі. Аказваецца аднак, што, нягледзячы на надзённыя клопаты, гомельскія артысты знайшлі сілы для вялікага духоўнага подзвігу. Сімпатычна паказаў сябе дзіцячы хор са Свіблава. Характэрна заўважыць, што ў большасці хораў з былога СССР адзін нотны запіс выпадае на двух, а то і больш спевакоў. І гэтыя дзеткі са Свіблава і апранутыя былі так, як апраналі дзяцей у нас нейкіх пяцьдзесят-сорак гадоў таму; выклікала гэта ў мяне самыя цёплыя рэмінісцэнцыі. І воляй-няволяй дзівуешся таму людскому феномену: людзі матэрыяльна бедныя вельмі багатыя духоўна. Атрымае такі чалавек нейкі чын — адыходзіць ад яго ўся духовасць і становіцца ён нейкім жыроўскім, грачовым, лукашэнкам ці іншым „абаронцам прынцыпаў". На шчасце, не да ўсіх гэта адносіцца.

Дырэктар Фестывалю, сп. Мікалай Бушко так ухапіўся за дырэктарскую работу, што з размаху асабіста вёў і фінальны канцэрт. А мог жа толькі склікаць прэс-канферэнцыю, пахваліць сябе і даць сфатаграфавацца. І так прыходзіцца пахваліць Яго мне — бо і ёсць за што: за ўсё ўбачанае, а асабліва за пачутае і карпатлівае нябачанае.

Вялікае дзякуй, спадар Бушко!

**Аляксандр Вярбіцкі**
**Фота Сяргея Грынявіцкага**

*Камерны хор праваслаўнай музыкі з Таліна (Эстонія).*

*Дзіцяча-маладзёжны хор прыхода Св. Міхаіла з Орлі.*

*Маладзёжны хор прыхода Успення Прасвятой Дзевы Марыі з Заблудава.*

# Юбілей „Праваслаўнага агляду"

10 гадоў таму назад паказаўся дадатак да „Tygodnika Polskiego" пад загалоўкам „Tygodnik Podlaski". Часопіс выдавала Хрысціянскае грамадскае аб'яднанне (Chrześcijańskie Stowarzyszenie Społeczne) — арганізацыя, якая яднала католікаў, пратэстантаў і праваслаўных — грамадзян Польшчы. „Tygodnik Podlaski" быў адрасаваны да праваслаўнага асяроддзя. Ад 1985 г., калі паказаўся першы нумар месячніка, бо такая ад пачатку была перыядычнасць выдання, часопіс некалькі разоў памяняў сваю назву, фармат, дасягнуў арганізацыйнай самастойнасці, пашырыўся круг яго чытачоў. Апошні майскі нумар „Праваслаўнага агляду" („Przeglądu Prawosławnego") падрыхтаваны быў на мелаванай каляровай паперы і звонку ў нічым ужо не напамінаў свайго папярэдніка „Тыднёвіка падляшскага".

Ад пачатку заіснавання часопіса яго галоўным рэдактарам з'яўляецца Яўген Чыквін, шматгадовы пасол Сейма Народнай Польшчы, а пасля — III Рэчы Паспалітай.

З нагоды юбілею рэдакцыя „Праваслаўнага агляду" сарганізавала ў Беластоцкай філармоніі асаблівую сустрэчу з чытачамі і прыхільнікамі часопіса. Спадар Чыквін выказаў свае рэфлексіі аб пачатках арганізацыі выдавецкага руху ў праваслаўным асяроддзі. Сакратар рэдакцыі Анна Радзюкевіч звярнула ўвагу прысутным, што памежжа культур, рэлігій ці цывілізацый неабавязкова вядзе да канфліктаў, але калі ёсць сярод жыхароў такой тэрыторыі трошку талерантнасці, узнікаюць тады знакамітыя ўмовы для развіцця культуры, навукі, гаспадаркі. Як прыклад спадарыня Радзюкевіч прывяла Рэч Паспалітую XVI стагоддзя. Краіна тады паспяхова развівалася, хаця звыш паловы яе тэрыторыі прыналежала да візантыйскай культурнай сферы. Неталерантнасць у наступных стагоддзях прывяла да руіны гэтую квітнеючую дзяржаву.

Айцец Анатоль Шыдлоўскі, прадстаўнік мітрапаліта Васілія, да віншаванняў ад галавы Праваслаўнай Царквы ў Польшчы далучыў галоўнаму рэдактару Чыквіну медаль Марыі Магдаліны I ступені, прысвоены яму Саборам Епіскапаў. Медаль III ступені атрымаў таксама публіцыст „Przeglądu" Міхал Болтрык. Былі зачытаныя віншавальныя тэлеграмы ад мітрапаліта мінскага Філарэта, віцэ-маршалка Сейма РП Уладзімежа Цімашэвіча, старшыні БГКТ Яна Сычэўскага і старшыні Літаратурнага аб'яднання „Белавежа" Яна Чыквіна. Шмат сяброў рэдакцыі з краіны і з-за мяжы непасрэдна віншавалі галоўнага рэдактара і прысутных на зале журналістаў падчас урачыстасці. Вечар упрыгожыў амаль двухгадзінны канцэрт сербскага хору „Мокраньяц" з Бялграда, які ўпершыню спяваў царкоўныя гімны з музычным суправаджэннем аркестра Беластоцкай філармоніі. З дазволу царкоўных улад быў такім чынам парушаны адзін з канонаў праваслаўнай харавой музыкі. Як сказаў на заканчэнне канцэрта айцец Рыгор Місяюк з Беластока, гэты эксперымент быў зроблены з думкай лепей прыблізіць заходнім людзям вартасць праваслаўнай культуры.

Падчас сяброўскай сустрэчы „пры каве" сербскі хор спяваў юбілярам свае нацыянальныя песні без аркестра. Гучала імпазантна. Народы, якія моляцца да Бога на сваёй мове і на ёй выяўляюць усе свае пачуцці жыць будуць. Не ведалі тыя ж сербы, што нейкі беларус, слухаючы іх спеваў, можа нечага ім зайздросціць.

**Я. М.**

# Нядзеля Святых Айцоў

Закончыўся ўзнёслы, пасхальны перыяд і вось 7-я нядзеля пасля Вялікадня, паміж святамі Узнясення і Пяцідзесятніцы, прысвячаецца Святым Айцам І Усяленскага Сабору ў Нікеі. У гэты дзень чытаецца ўрывак з 17 раздзела Евангелля паводле Іаана. У ім цытуецца першасвятарскую малітву Хрыста за будучую Царкву і Ягоных паслядоўнікаў: „Словы, якія Ты даў мне, я аддаў ім, і яны прынялі і зразумелі, што я ад Цябе зышоў, і паверылі, што Ты мяне паслаў... Захавай іх у імя Тваё тых, якіх Ты мне даў, каб яны былі адно як і мы". Першасвятарская малітва, перапоўненая прарочай заклапочанасцю будучыняй Царквы, якую ўжо неўзабаве чакала не толькі пераможнае шэсце праз свет, але і горкая чаша пакутаў. Акрамя знешніх ворагаў, хутка з'явіліся ўнутраныя, якія разладамі і ерасямі раздзіралі на кускі місцючы Хрыстоў хітон. Чалавечае самавольства і зямныя меркаванні ўзялі верх над еднасцю, якой жадаў Хрыстос. Усе сілы зла намагаліся перш за ўсё падзяліць хрысціянства, каб такім чынам яго аслабіць.

Вось таму Царква на працягу сваёй гісторыі, беспаспяхова ахоўваючы свае еднасць і чысціню веры, заўсёды шанавала тых людзей, якія „праўдзіва навучалі слова Хрыстовай праўды". Такімі несумненна былі ўдзельнікі Сабору ў Нікеі, якія ў пераломны час, у час вялікага ўнутранага крызісу, здолелі захаваць еднасць і пераадолець зло. Непасрэднай прычынай першага, усеагульнага Сходу іерархаў і вернікаў была ерась александрыйскага святара Арыя. Гэты высокаадукаваны, але і саманадзейны чалавек, аспрэчваў боскасць і адвечнае існаванне Сына Божага. Ён вучыў, што Сын Божы нарадзіўся пазней; Ён не роўны Айцу, а толькі Вышэйшая Істота. У 325 годзе, пры імператары Канстанціне Вялікім у азіяцкім горадзе Нікеі сабралася каля двух тысяч дэлегатаў у тым ліку 318 епіскапаў. З'ехаліся прадстаўнікі царкваў са шматлікіх краін, шматлікія мелі яшчэ на сваіх целах сляды пакутаў, перанесеных у нядаўнія часы праследаванняў. Былі людзі, якія ўласнаю кроўю засведчылі вернасць сваёй веры, для якіх ейная чысціня была найвышэйшай каштоўнасцю. Для маладога хрысціянства арыянская ерась была ў сапраўднасці вяртаннем да іудзейскага аднабожжа, пры якім хрысціянству заставалася толькі роля маральнага дадатка. Арыянізм не разумеў, што сутнасць хрысціянства не ў суб'ектыўнай маралі і аскетызме, але ў аб'ектыўнай тайне выкуплення. Сутнасць хрысціянства ва ўвасабленні і ўваскрэсенні Богачалавека. На жаль, усе нюансы тэалогіі і вытанчаную каварнасць арыянскай ерасі ў той час усведамлялі сабе далёка не ўсе ўдзельнікі Сабору. На гэтым бадай палягае несумненна цуд Нікейскага Сабору, калі меншасць удзельнікаў бясспрэчна кіраваная і натхнёная Божым Правілам знайшла і абвясціла фундаментальную формулу „суістотны". Нейкае азарэнне схіліла іерархаў і тэолагаў супрацівіцца прывабнай, але небяспечнай навуцы аж да канчатковай перамогі над ёю. Перамагаючы ўнутраныя нелады і супярэчлівасці, удзельнікі Нікейскага Сабору акрэслілі і замацавалі ў якасці догмы звышчасовую дактрыну, што „Сын Божы з'яўляецца сапраўдным Богам, народжаным ад Бога Айца перад усімі вякамі; Ён так жа вечны, як і Айцец; Ён народжаны, але не створаны і суістотны Айцу". Гэтая догма знайшла адлюстраванне ў першых сямі пунктах Нікейскага Сімвала Веры, які дапоўнены быў амаль 60 гадоў пазней і ў гэтай форме нязменна захоўваецца да сённяшняга дня. Сімвал веры — вынік натхнёнай, звышчасовай думкі Айцоў Царквы — не адзіны плён Нікейскага Сабору. Удзельнікі сфармулявалі таксама шэраг канонаў — правілаў унутранага жыцця Царквы, якія захоўваюць сваю важнасць да сённяшняга дня.

Бывае, што нейкая адна падзея ў гісторыі народа мае для яго вырашальнае, гістарычнае значэнне. Бывае таксама, што некалькі людзей паўплывае на будучыню ўсяго народа, які слушна ганарыцца і ўшаноўвае памяць асабліва для яго заслужаных людзей. Што тычыцца Царквы, дык яна ганарыцца сваімі святымі ды выдатнымі іерархамі і ў гэтую нядзелю ўшаноўвае памяць некаторых з іх — Айцоў Першага Усяленскага Сабору ў Нікеі.

**а. Канстанцін Бандарук**

*Рэдакцыі „Przeglądu Prawosławnego" з нагоды юбілею дзесяцігоддзя існавання часопіса поспехаў у далейшай працы для праваслаўнага асяроддзя ў Польшчы*

*жадае „Ніва"*

# Жывуць у Макаўцы бабулькі маладыя

— Думала я ўжо свой саян аддаць у Беларускі музей, — аднойчы перад Каліадамі сказала пані Марыся Федарук, — але яму, відна, не спяшаецца да жыцця экспаната. Будзе ў ім выступаць цётка Люба з Макаўкі.

Цётка Люба з Макаўкі гэта Марысіна сваццexamples. А саян, папраўдзе, не толькі Марысін — а паненскі яшчэ бабы Аляксандры Нікалаюк з Райска, мачахі Марысінай мамы, а памерла бабуля ў 1953 годзе, у свае 66 гадоў. Можам палічыць, колькі гадоў таму саяну, а выглядае ён як новы, а як спраўна ляжыць на стройным стане цёткі Любы!

Знайшла я дом з нумарам дваццаць пятым у Макаўцы, у якім жыве цяпер адзінокая цётка Люба. На дарозе мне сказалі, што яе напэўна няма дома. Сапраўды, на дзвярах вісеў замок. Я рашыла паглядзець вёску, і калі вярнулася праз паўгадзіны, дзверы былі адчынены. Дарэчы, замок тады вісеў толькі для смеху, бо цётка Люба ўпраўлялася ў гаспадарцы, была на падворку. Цяпер адчынены быў уваход у склеп.

— Гэй-гэй, ці там у склепе ёсць можа гаспадыня?

— Алё! А хто там наверсе? — азваўся з ямы вясёлы, малады голас.

— Ад цёткі Марысі пасланец!

У цёмным прахоне паказалася спачатку худзенькая спінка, і на падлогу жвава выскачыла цётка Люба. Толькі глянула я на яе румяны шчыры твар, адразу стала мне неяк весялей, прытульней на душы. Пабегла цётка памыць рукі — надта ж многа сёння папрацавала яна: навыбірала з чатыры мяхі бульбы, накідала цэлы воз гною — прыехалі дачка Геня з мужам з Васькоў, садзіць бульбу. Надвор'е добрае, але няма чаго яму верыць: то яркае веснавое сонца, то напаўзае чорная хмара, збіраецца на дождж.

Завіхаецца цётка Люба каля пліты, частаваць мяне хоча. Гарачая гарбата грэе вусны і далоні.

— Цікава тут жывецца?

— От, жыццё як жыццё. Пахавала я мужа шэсць гадоў таму. А дачку, у яе дваццаць адзін, гадоў ужо дзевятнаццаць таму. Добрага, так папраўдзе, у жыцці я мала бачыла. Чалавек жыве, бо мусіць. Калісь мы жылі ў Беластоку. Мая бацькаўшчына ў Ваневе. Чалавек мой згэтуль быў. Куплялі ўсё, з-пад сякеры мой хату гэту збудаваў. Якое жыццё было — адны недастаткі! Муж доўга хварэў, працавалі мы з дачкою. А пасля ў гміне мне сказалі: не дастану я рэнты, бо на мяне зямля *не фігуруе*. Цераз суд перапісалі зямлю на мяне. Пасля прыйшлося мне яе аддаць дзяржаве... Што ж, жыццё задужа цікавае не было. Чалавек жыве, як ногі хоць троха ходзяць. З людзей хто пасядзіць, пастаіць, а я як той дурань усё рабіла б і рабіла б! Часам забудуся і пад'есці. Гуркі вось пасадзіла, хоць *зімна* было, паўзыходзілі. Коніка яшчэ трымаю, але ў гэтым годзе прадаваць буду — усё больш трактарам робіцца. А для каня трэба *лонку* наняць, эт, і пэцкацца з ім столькі! Цяпер толькі курак маю. Мела раней кролікаў, карову трымала. Калі *хазяйства* было, то ўсё было...

У нас бабы *е дужо самотные*. Бабы, удовы, *рэнцістыя* сабраліся. *Сеніёры*. У Нарву ходзім кожны аўторак, на пятую гадзіну пасля абеду, у „клуб сеніёраў". Люблю цяпер у добрай кампаніі пабыць. З Макаўкі баб з дванаццаць. І на спевы збіраемся. Раней нас пяць-чатыры было, цяпер тры: я, Марыся Лукашук і малодшая, Мірка Садоўская. Калядуем. А на Каляду ў Доме культуры, для сеніёраў, сабралася старэчаў будзе сталоў як мая хата, у тры рады, былі ксёндз, бацюшка, *бардзо пенкне*, дзяліліся аплаткам і просвіркай... Спраўлялі і запусты, з музыкай. Пагуляемо, паспіваемо — весела! Спраўлялі мы і дні нараджэння, і імяніны. Пачалі мы свае *імпрэзы* запісваць на відэакасеты. Кожны штосьці прынясе, хто пірог, хто *цясткі*, маем гарбатку. Калі пост, спяваем набожныя песні, калі так — такія. Кожны ў той аўторак стараецца там быць, у Гмінным асяродку культуры ў Нарве. І на экскурсіі ездзім. А з нашым спяваннем — то нас цяпер толькі тры, на жаль, і, бывае, што нас падвядуць, то самаход не дадуць, то не ўпішуць у праграму. Любім выступаць, беларускае спяваць. Адна другую намовіла, і так пайшло. Выступалі ў Нарве, у Гайнаўцы, у Чаромсе, на аглядах, калядавалі ў Нарве, з Тыневічамі паехалі ў Гайнаўку. Рэпетыцыі? Няма з кім рабіці, адны збіраемся, у мяне ў хаце. Дыпломы трымаем у Міркі, наймалодшай.

Ці часу ў мяне цяпер больш, калі я на пенсіі? Часу то яго няшмат, але калі хто хоча, то можа яго знайсці, каб разам пасядзець. Можа, цяпер, вясной, цяжкавата з ім, бо агароды, бульба, а з усім управіцца трэба.


*Люба Астапкевіч з Макаўкі.*

Чаму больш бабаў у вёсцы, самотных? Даўжэй жывуць. Раз — не кураць папяросаў, два — не п'юць. Цяпер у вёсцы гаспадароў можа шасцёх будзе, сапраўдных *рольнікаў*. У вялікай Макаўцы амаль толькі па адным чалавеку ў хаце. Кавалераў поўна, „старых". Асабліва п'яніц. Мала які не п'е! Не пажаніліся, і ходзяць, „ад берага да берага". І нічога іх не цікавіць. „Сам п'ю, сам гуляю, і дадому не спяшаю". Што мае такому хтосьці звязаць дома? Няма ў людзях цікавасці да таго жыцця. Праўду кажучы, то калісьці было весялей — тых тэлевізараў не было, народ павыходзіць на лаўкі, спяваюць кругом, аж рэха разносіцца. А цяпер кожны перад сваім тэлевізарам, мала хто да каго ходзіць, размаўляе, мала хто выйдзе на сваю лаўку. У мяне то і часу мала, летам — зёлкі, пасадка лесу... Час як адзін дзянёчак ляціць, і ўсё жыццё...

Як са здароўем? Я лекар сам сабе, і дай Божа па лекарах не хадзіці! Кашляла ўсю зіму, прыйшла вясна — усё прайшло! Нічога ў свеце не баюся, як толькі... уколаў! Калі *задужо* з імі справы, то хутка памрэш, *пошлі воны*! А мне ўжо 66-ты год пайшоў...

Выступалі спявачкі з Макаўкі ў кажухах, у саянах. Прымерала цётка Люба згаданы саян.

— Шкада, што я басіком! Давайць сюды адразу камеру! — узялася пад бокі.

— Нашыла я на Марысін слііўковы саян тры стужкі, праўда, прыгожа?.. Марыся ў апошні раз казала, што я памаладзела. От, даўно мяне яна не бачыла, то здаецца! Выпасцілася, то і фігура стрыйнейшая зрабілася. У пятніцы то і цалкам не ела, ано крышку ўвечары. А такая тонкая я ўжо з натуры... — усміхаецца цётка Люба.

Ганіла мяне навальніца па дарозе ў Нарву. Прамокла я да сухое ніткі. Ашукала мяне сёння надвор'е! Грэлі мяне расцягнуты шводар і ў блакітныя кветкі хустка Любы Астапкевіч, вясёлай бабулькі з Макаўкі.

**Міра Лукша**
**Фота аўтара**

# З МІНУЛЫХ ДЗЁН

*(працяг; пачатак у 21 н-ры)*

## Мае карані

Мой продак выводзіўся з Вільні або яе ваколіц і называўся Юстын Пракаповіч. Гэтае імя даволі часта паўтаралася ў маіх продкаў. Згаданы роданачальнік у пачатку XVIII стагоддзя за заслугі для І Рэчы Паспалітай (звесткі пра тое, якія гэта былі заслугі, да нашага часу не дайшлі) атрымаў ад вялікага князя літоўскага шляхецкі прывілей і чатыры вёскі: Кучкуны, Яблынаўку, Баханы і Ліванова. Апошняя вёска ў 1910 годзе спалучылася з Баханамі, аднак надалей жыхары хутароў называюць сябе ліваноўцамі і кажуць, што жывуць на „Пракапоўшчыне".

Пры нагодзе хачу заўважыць, што прозвішча Пракаповіч часта сустракаецца ў гістарычных помніках на беларускіх землях. Напрыклад, высечана яно на абеліску ў Белавежы. На ім напісана, што нейкі Пракаповіч быў каралеўскім лоўчым і прымаў удзел у каралеўскім паляванні ў Белавежскай пушчы. Будынак універсітэта ў Вільні ўзвёў Валяр'ян Пракаповіч, пра што успомніў папа Ян Павел II у час свайго візіту ў сталіцы Літвы. Таксама на могільніку на Выгодзе ў Беластоку знаходзіцца магіла праваслаўнага святара з Суража Канстанціна Пракаповіча, які быў забіты польскімі паўстанцамі ў 1863 годзе. Мабыць, існуюць нейкія сувязі майго продка з вышэйпамянёнымі асобамі.

Прашчур Юстын Пракаповіч, едучы ў нададзены яму маёнтак, узяў з сабою жонку Міхаліну, сыноў — Аляксандра і Кастуся, швагра (жончынага брата) па прозвішчу Камар, які быў спецыялістам па будаўніцтве вадзяных млыноў, уніяцкага ксяндза ды сям'ю яўрэяў, якія паміж вёскамі Кучкуны і Яблынаўка заснавалі карчму (працавала яна да 1910 года).

Уніяцкі святар прывёз з сабою парабка па прозвішчу Дрозд. Мой продак Юстын выдзеліў святару валоку зямлі на паўночны-ўсход ад Зарэчча пры мяжы з Адцэдаю і пабудаваў драўляны касцёл.

Якім чалавекам быў роданачальнік Юстын Пракаповіч — цяжка сказаць. Паводле апавяданняў быў ён добры для сваіх сялян: надзяляў іх зямлёю, вызваляў ад паншчыны. Адначасна быў заўзятым карцёжнікам ды прайграў вёскі Баханы і Ліванова. Папаўшы ў фінансавыя клопаты, падаўся ён у Вільню прасіць вялікага князя літоўскага пазычыць яму грошы. Загінуў ён у дарозе, стаўшы ахвярай бандыцкага нападу.

Невядома як склаўся лёс яго наследнікаў падчас упадку І Рэчы Паспалітай, напалеонаўскай вайны ці пазнейшых падзей. У нашай сям'і расказвалася, што адзін з унукаў Юстына Пракаповіча, які жыў у маёнтку, меў дачыненне да студзеньскага паўстання 1863 года. За тое, што ў мясцовым касцёле хаваліся паўстанцы, казакі святыню спалілі, а ксяндза саслалі ў Сібір, адкуль ён не вярнуўся. Беззваротна ў Сібір папаў і сам уладальнік, а маёнтак царская ўлады канфіскавалі. Частку ўладанняў (100 га зямлі, збудаванні і вадзяны млын у Яблынаўцы) купіў нейкі Юдыцкі, а 60 га набыў Шалькевіч. Ксяндзоўская зямля была перададзена парабкам Драздам. Пракаповічы пасля падаўлення студзеньскага паўстання былі пазбаўлены шляхецкага прывілею, дадзенага ім вялікім князем літоўскім.

У гэтым часе жыхары вёскі перайшлі на праваслаўе. Пераход адбываўся пад фізічнай пагрозай з боку казакаў. Старажылы расказвалі, што казакі, наехаўшы вёску, забралі ў астрог некалькіх жыхароў, у тым ліку і майго родзіча Ануфрыя Камара — вясковага старасту. Быў ён жанаты з Юстынай Пракаповіч, якая была вядомая ў наваколлі як выдатны пчалавод. Пасля некалькіх дзён казакі сабралі ўсіх сяльчан пад векавым дубам на панадворку старасты, прывялі звязанага вяроўкай Ануфрыя і запыталі яго: „Скажы, якой ты веры?" Той адказаў: „Я і мая сям'я з сённяшняга дня — праваслаўна-рускія каталікі". Пасля гэтага відовішча Ануфрыя Камара вызвалілі, а ўсе жыхары сталі праваслаўнымі. Тут хачу яшчэ прыгадаць, што да сённяшняга дня ў Кучкунах бытуе акрэсленне „праваслаўны рускі каталік".

Паміж маёнткавымі Пракаповічамі і сельскімі Камарамі былі сямейныя сувязі. Не радніліся затое Пракаповічы з Драздамі. У час спрэчак пасвараныя бакі заўсёды падкрэслівалі сваё сацыяльнае паходжанне, называючы адзін аднаго „парабкамі" і „жыдамі", хаця ў многіх выпадках колішні парабак быў намнога багацейшы за былога зямельнага ўладальніка. „Жыдамі" называлі Драздоў таму, што ў палове XIX стагоддзя адзін Дрозд ажаніўся з яўрэйкай Сараю — дачкой вясковага карчмара. У вёсцы жывуць іх праўнукі — усе яны праваслаўнага веравызнання.

*(працяг будзе)*

# Ядзя мела шчасце

Ядзя мела шчасце. Да навукі не прыкладалася. Ледзь-ледзь пералазіла з класа ў клас. Пасля пачатковай школы накіравалася ў тэхнікум, але і там былі ў яе адны двойкі ў дзённіку; пад канец семестра якасьці заўсёды выцягвала на тройкі.

— Чаму ты, Ядзя, марнуеш свае здольнасці? — пыталіся настаўнікі.

— На свеце ёсць важнейшыя справы, чым вучоба! — смяялася проста ў вочы дзяўчына.

— Што будзеш рабіць пасля школы? — пыталіся сяброўкі.

— Выйду замуж за багацея, і буду жыць як княжна!

Удалося здаць „матуральныя" экзамены. Усе аднакласнікі кінуліся шукаць працу, а Ядзя паехала ў Нямеччыну. Узялі яе на працу ў першакласную кавярню. Аднойчы пасля працы пайшла ў бар, расслабіцца. Напілася так, што ледзь змагла ісці дадому. Нейкі мужчына дапамог ёй выбрацца з бара, запакаваў у свой „Форд" і адвёз у гатэль. На другі дзень сустрэўся з ёю і сказаў, што закахаўся ў Ядзю з першай хвіліны.

Немец меў тэкстыльную фабрыку, пару дамоў. Карыстаўся не адной уласнай аўтамашынай. Ядзя не была супраць пайсці за яго замуж. Нарадзіла двое дзяцей — хлопчыка і дзяўчынку. Жывецца ёй сапраўды някепска. Кажуць ёй сяброўкі, калі прыедзе ў Польшчу: „Мела ты шчасце, Ядзя, бо рознае бывае за мяжой з нашымі дзяўчатамі!"

**Аўрора**

З нашага жыцця

## ГРОШЫ

— Во гультаіска! — дакарае Марка жонка. — Усе мужыкі стараюцца знайсці работу, каб грош быў, а ты сядзіш на „куранёўцы" і цешышся, што выхадны кожны дзень.

— Грошы — гэта не ўсё.

— То ідзі на кірмаш і прынясі мне новую куртку, бо хаджу як жабрачка.

— Дай жа грошай на куртку.

— Грошы ж не ўсё!

* * *

Юрка хаваў грошы ад жонкі. Жонка хадзіла, хадзіла, аж дагледзела, дзе тайнік. Забрала грошы, а мужу сказала:

— Юрка, грошай ты мне не даеш, яны ўсе ў цэбе, то ідзі купі што паесці. Смятаны няма ў хаце, кілбасы...

Муж адшукаў тайнік, па грашах, вядома, след прастыў! Пачухаў Юрка патыліцу:

— Купі смятаны, кілбасы... А як мне іх купіць?.. Без грошай?!

* * *

Размаўляюць дзве прадаўшчыцы, уласніцы крамы з ношанай адзежай. Адна наракае, што старых плашчаў і куртак у яе ніхто не купляе, а другая прадала ўсе.

— Як гэта табе ўдалося?

— У кожную кішэню я паклала кашалёк, выпханы паперай. Хто мераў вопратку, намацаў кашалёк. Купляў плашч, нават непатрэбны і ненайлепшы. А гонар не дазваляў потым вяртаць анучу ў краму.

* * *

— Што новага ў З.? — пытае на кірмашы сябар сябра.

— Памятаеш Кастусіка? Схацеў дурань на старасць паглядзець голую бабу.

— Здзіўляешся? Усе глядзяць парнуху.

— Ды ён захацеў жывую! Пазваў такую маладзенькую, Моніку. Заплаціў, распранулася. Пахадзіла голая па Кастусёвай хаце, падгледзела, куды старэча хавае грошы. Стары пабег са скаргай у паліцыю. Вядома, там толькі пасмяяліся. Вось смех ды плач...

**Аўрора**




Астроне! Сніліся мне і маёй дачцэ дзіўныя сны, а ўсё пра майго бацьку. Дачцэ прыснілася, што дзед танцуе, і ад гэтага яму робіцца так лёгка-лёгка, што быццам апынуўся ён на другім беразе, а чаго — невядома.

Мне прыснілася спакойнае мора. Вада чыстая, няма хваляў, а на беразе мора стаіць дом. Быццам гэта дом майго бацькі, але не такі, як у сапраўднасці — усярэдзіне ўвесь абложаны драўлянымі дошчачкамі. А бацькі там не было.

Уяві сабе, Астроне, што праз некалькі дзён бацька памёр. Памёр хутка і неспадзявана — інфаркт. А калі памерла мая мама, дык на пару дзён перад гэтым мне прыснілася, што яна, як дзве кроплі вады, падобная на бабулю-нябожчыцу.

Як ты думаеш, ці гэтыя сны пра бацьку прадвяшчалі яго смерць?

Крыся

Крыся! Мяркую, што якраз гэта яны прадвяшчалі. Тваёй дачцэ прыснілася, што дзед апынуўся на другім беразе. Усе яго жыццёвыя клопаты на гэтым свеце скончыліся — і стала яму лёгка.

Твой сон быццам бы пацвярджае сон тваёй дачкі. Дом, абложаны драўнінай усярэдзіне, быццам бы сімвалізаваў труну, новы бацькаў дом, а спакойнае мора — што нарэшце ён мае спакой.

Таксама і сон пра тваю маці быццам сімвалізаваў упадабненне яе да бабулі-нябожчыцы, якая ўжо была на тым свеце.

Прарочыя твае сны, але на будучыню жадаю табе, каб прадвяшчалі яны толькі добрае. Што ж, ад смерці не ўцячэш.

**АСТРОН**

## „Нячыстая сіла"

Кажуць у аколіцы: вось пакінула маці сыноў. Не малых, дарослых. Не магла, хіба, ужо на іх глядзець? П'юць, качаюцца, устаюць — ізноў „папраўляюцца". Кажуць людзі: добрыя хлопцы, нічога кепскага не робяць, іхняя справа, што сябе атручваюць, свайго жыцця не шкадуюць. Як нап'юцца, са словам не лічацца. Гора маткам такіх — колькі ж часу цярпець, чакаць, мо перастануць, апамятаюцца.

Паехала маці ў мястэчка да дачкі, унучка дапамагае маленькага выхоўваць. Сядзіць там у спакоі, але сэрца баліць: а што ж тыя нягоднікі адны робяць? Можа, дачакалася б — папраўіліся б, паразумнелі?.. Няма каму там імі апекавацца, не пажаніліся дагэтуль... Прыемна быць бабуляй тут, але ці і ад сыноў дачакаецца ўнукаў?.. Калі ж яе родныя сыночкі знойдуць нейкі сэнс у жыцці, якую суцеху? Боль сціскае сэрца маці — гадавала ж іх, песціла не для гора, а для шчасця, свайго і іхняга! Колькі ж матуляў мае такі гаротны лёс!

Не адзін скажа: вось такіх ты іх маці пагадавала, такімі іх выхавала, што паддалі свае маладыя жыцці нячыстай сіле — гарэлцы, што апанавала іх мазгі і сэрцы, давяла да хваробы! Ці вылечыць іх з гэтага родная маці, сумленне, слова суседзяў, газета? Можа, няхай дзяржава, якая скарб свой пабольшвае манапольнымі гарэлкай і цыгарэтамі, бярэ іх, тых п'яніц, на сваё ўтрыманне за тыя нячыстыя грошы, якія з іх мае?! І хай іх корміць і поіць да скону! І рэнты дасць іх дзецям-пакутнікам.

Але ці грошы кампенсуюць слёзы?

**Іда**




## Месяц май

Месяц май —
Як зямны рай:
Усё падымаецца
І развіваецца.

Расліны растуць,
Кветкі цвітуць,
Пахнуць прыемна —
Жыць нам нядрэнна.

Будуць плады,
Станем у рады
Дружна, адважна,
Умела і развважна.

Месяц май
Адвагу нам дай,
Як птушкам на небе,
У кожнай патрэбе.

Пастаянна спяваць
І праслаўляць
Бога, прыроду і нас —
Маем і сапрана і бас.

**Мікалай Панфілюк**

## КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 3. галоўны паўночнагерманскі бог, 8. сібірскі лес, 9. прыбор, 10. прыправа, якая выціскае слёзы, 11. цвіце ў верасні, 13. шлях, 15. курыца, 16. сталіца Афганістана, 20. маладзенькая жанчына, 22. меладычны абарот, які завяршае частку твора, 23. сямейства птушак (мн.л.), 27. прылада для снавання нітак, 29. касцяк, 30. горы ў Расеі і Манголіі, 31. усходнеславянскае племя, 32. грыб з ліпкай шапкай, 33. адбіццё нападу, 34. жыхар Аравіі.

**Вертыкальна:** 1. кусок бервяна, 2. вадаспад у Бразіліі, 4. жывуць на чужыя сродкі (мн.л.), 5. амерыканскі страус, 6. горы ў Венгрыі, 7. парадак у следаванні, 12. свіное сала, 14. вартаўнічка, 16. какаінавы куст, 17. нядоля, 18. паўднёваамерыканская дзяржава, 19. вядзьмарства, 21. зерне ласкава, 24. вершаваны твор з гістарычным зместам, 25. славянскі бог сонца, 26. геаграфічны напрамак, 27. косць чэрапа ніжэй вачніцы, 28. вялікі японскі горад.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 16 н-ра:**
**Гарызантальна:** карані, костка, кавыль, Анды, эпік, запаведнік, Майн, Уран, Навара, калега, Самара.
**Вертыкальна:** капкан, Ніка, Коль, карнік, выдавецтва, дызайн, Эпікур, матыка, Анкара, нага, раса.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

**МІНІ-ДАВЕДНІК**

**АНТЫ** — племя, якое ў IV—VI ст.ст. жыло між Днястром і Дняпром.




### Год у гаспадарцы

**Чэрвень.** Абгортваць бульбу. Многа працы ў агародзе — падсыпаць угнаенні, абгортваць, палоць. Касіць траву і канюшыну. Хатнюю птушку карміць дробнасечанай зелянінай. Жывёле даваць зялёны корм. Рыхтаваць пчолы да галоўнага ўзятку — даваць рамкі з вашчынаю на складванне мёду. Касіць і сушыць розныя кармавыя травы. Знішчаць каларадскага жука (бульбяную стонку). Варыць варэнне з суніц, трускалак, чорных ягад — кансерваваць. У вольны ад працы час трэба падрыхтаваць у клуні месца для новага сена і збожжа.

### Як ратавацца ад насякомых і іншых...

Краты не водзяцца там, дзе расце сланечнік.

Каб выгнаць кратоў, трэба ў нару паставіць бутэлечку з камфорай.

Калі вас уджаліла пчала ці камар, патрыце гэтае месца нашатырным спіртам, лімонным сокам, кавалачкам цыбулі або часнаку.

Жменю сечаных каранёў пырніку заліце вадой (1,5 літра), закіпяціце і дайце адстаяцца. Паўтарыце тры разы, пакуль адвар не атрымаецца светла-жоўтага колеру. Калі адварам памажаце цела, ні адзін камар не сядзе.

Пры дапамозе воцату добра пазбавіцца молі. Трэба разагрэць звычайную цагліну, пакласці яе ў каструлю, паставіць там, дзе завялася моль і спырснуць воцатам. Яго пары знішчаць моль разам з лічынкамі.

Перцавая мята ды кветкі і лісткі язьміну адпуджваюць моль.

Эфектыўным сродкам ад молі з'яўляюцца арэхавыя і тытунёвыя лісткі, а таксама сухія скарынкі апельсіна.

Калі ў кухоннай шафе паявіліся мошкі, патрыце паліцы і сценкі анучай, змочанай воцатам і праветрыце.

Мурашкі баяцца паху карэнняў аеру ды лісця памідораў.

Мышы і пацукі не любяць дзікай мяты.

## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

У чэрвені вецер паўднёвы — ураджай яравых.

На Купалу раса — будуць агуркі.

Летні дзень год корміць.

Калі суніца красна, не сей аўса напрасна.

Хоць і шкада кветак, але касі луг, як цвіце.

Калі ўлетку дождж рэдка бывае, то ў вуллі мёду прыбывае.

Калі 2-га чэрвеня лье дождж — увесь чэрвень будзе сухі.

Прыйшоў Ерамей — больш не сей.

Фёдар-Страцілат грамамі багат.

На Тодара раса — канапель паласа.

Птушкі моцна крычаць, нізка лётаюць — перад непагаддзю.




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраловіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1995 r. upływa 20 sierpnia 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 14,30 złotych (143 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## Думкі ўслых

Праўда перашкаджае ў набліжэнні да другога чалавека. Не досыць, што яна знаходзіцца пасярэдзіне, то на дадатак яна яшчэ і голая.

*

Кампакт-дыск даказаў, што цішыня можа быць стэрэафанічнай!

*

Не ў кожнага валасатая лысіна.

*

Даўгі? Так! Чалавек не жыве толькі дзеля грошай.

*

Цяжка даваліся яму размовы на чужой мове, дык памагаў сабе жэстамі. У выніку стаў баксёрам.

*

Не будзь садыстам. Прымяні біч, які скруціў на сябе мазахіст.

*

Толькі так нам здаецца, што люстэрка маўчыць.

*

Што б тут прыдумаць, каб не думаць?

*

Так нецярпліва чакаў сівізны, што аж палысеў.

*

Не вучыся. Калі ты геній, то і так гэта некалі само аб'явіцца, а калі не — дык тады таксама няма сэнсу вучыцца.

**Адам Сяменчык**

## НІЎКА

Мал. В. Гагалушкі

## Цешчын зяць

Нажыла — во! —
Зяця цешча:
Расчыняе зяць той цеста...
Выпякае торты, здобы...
— Кулінарная хвароба,
Ці, як яшчэ кажуць, хобі, —
Шэпча зяць на вуха цешчы. —
Так што, мамка, толькі цешся,
Што такі з'явіўся зяць.
Іншы б мог гарэлкі ўзяць
У свабодную хвіліну
Дый за гальштучак закінуць,
І, вясёленькі пасля,
Па праспекце пагуляць...
Не такі у вас я зяць!
Ды са мной жыццё — скачы!
Вашай шэнціць жа дачцы.

Расцвітае ружай цешча
І ў далоні ажно плешча:
— Скарб дый годзе,
а не зяць —
Гэткіх трэба пашукаць!

Ды сурочыў нехта зяця:
Пасля працы позна ў хаце
Стаў з'яўляцца ён цішком
(Добрым зяць быў хітруном).
І на лапках, нібы кот,
Жонцы, цешчы:
— Наш прафком
Рассакрэціў мае хобі...
І цяпер —
ну што тут зробіш?
(Во прычына ўсіх прычын!)
Я хаджу вучыць мужчын
Выпякаць штовечар здобы...

**Яўген Алей**



Мал. Л. Разладава

## Смех у санаторыі

Брэжнеў, развітаўшыся на аэрадроме з Геркам, доўга глядзіць на закрытыя ўжо дзверы самалёта і сардэчна махае рукою.
— Сапраўды так яго любіш? — пытае Касыгін.
— Палітык то з яго ніякі, але як цалуе!..

*

— Што было прычынай смерці Брэжнева?
— Памёр на інфаркт, калі даведаўся, што яго сын уцёк з дома спакойнай старасці.

*

Сустрэліся Форд і Брэжнеў:
— Ведаеш, Лёнька, — гаворыць Форд, — вельмі люблю збіраць анекдоты на тваю тэму: маю іх ужо цэлы альбом.
— Я таксама збіраю, — адказвае Брэжнеў, — маю іх ужо цэлы лагер.

*

Брыжыт Бардо наведала Савецкі Саюз і на Крамлі прыняў яе сам Брэжнеў. Ачараваны актрысай папрасіў у яе выявіць сваё пажаданне: ён яго споўніць.
— Адкрыйце граніцы, — не задумоўваючыся адказала Бардо.
— Ой, жартачкі вас трымаюцца; хочаце астацца толькі ўдваіх са мною.

*

Уся Польшча падрыхтавана на візіт Брэжнева. Калі прыляцеў, на аэрадроме прывіталі яго артылерыйскім салютам.
— Ой, зноў вайна! — залямантавала пажылая бабулька.
— Не бойцеся, — супакойваюць яе, — гэта толькі Брэжнеў прыехаў.
Праз хвіліну раздаецца наступны выстрал.
— Аднак вайна, — нервуецца бабулька.
— Не, — зноў адказваюць ёй, — гэта Брэжнеў прыехаў.
— А што? За першым разам не папалі?

*

У краму з папяровай галантарэяй уваходзіць мужчына ў лахмоцці і пытаецца:
— Ці ёсць партрэты Леніна?
— Ёсць.
— Дайце дзесяць.
Праз тыдзень той самы мужчына, але ўжо лепш апрануты зноў з'яўляецца ў краме:
— Дайце мне гэтым разам сто штук.
Мінула тры тыдні і той самы мужчына заязджае пад краму новым самаходам і ад парога заяўляе, што купляе ўсе партрэты Леніна, Маркса і польскіх правадыроў.
— Што вы з гэтымі партрэтамі робіце? — цікавіцца прадавец.
— Адкрыў стрэльбішча за горадам.

Даслаў **Андрэй Гаўрылюк**

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Да дзевятнаццаці гадоў мой муж быў тыповым маміным сынком. Усё яму было дазволена, кожнае яго жаданне спаўняла кахаючая мама. Яна мела грошы, бо здаўна займалася гандлем, ад калі ўжо мела прыватную краму. Хлопцу не хапала даслоўна птушынага малака. Але пры ўсім гэтым быў вельмі паслухмяным хлопцам: маці, а не бацька, была для яго найбольшым аўтарытэтам. А яна хацела, каб хлопец атрымаў грунтоўную адукацыю, і выслала сына на вучобу ў Варшаву, ва універсітэт.

Новыя людзі, новыя ўмовы, а перш за ўсё тое, што не было побач ласкавага, але і суровага позірку мамы, — усё гэта прывяло да таго, што хлопец пачаў заглядаць у кілішак. Спадабалася. Гарэлка стала для яго справай звычайнай і неабходнай. Аднак жа тады яна яшчэ не перашкодзіла яму быць чалавекам. Закончыў універсітэт, атрымаў вышэйшую гуманітарную адукацыю і вярнуўся ў родны горад.

Усё тут здалося яму пасля Варшавы нейкім шэрым і нецікавым. Мама не раіла ісці працаваць у школу настаўнікам. Якія ж гэта грошы, ці за іх пражывеш?! Дапамагла сыну купіць „бізнес", бо толькі гэта давала, на яе думку, шанц някепскай экзістэнцыі.

А побач яго смажальні рыбы стаяла крама маіх бацькоў, дзе я надта часта дапамагала ім. Так мы пазнаёміліся, і не думала я ніколі, што над жыццём двух заможных і кахаючыхся людзей пройдзе навальніца.

Шлюб і вяселле былі надта гучныя. Была запрошана бліжэйшая і далейшая сям'я, але былі таксама і суседзі, калегі па прафесіі. Бацькі далі мне салідны пасаг, купілі нам кватэру і машыну. Я пачала дапамагаць мужу ў яго „бізнесе". Праўда, былі ў нас працаўнікі, але ж трэба было іх пільнаваць. Я ўся прасмярдзела рыбай.

Ужо мы мелі двое дзетак, калі мой муж пачаў знікаць штораз часцей з працы, пакідаючы ўсю адказнасць на мяне. Вяртаўся часта п'яны, і ўжо не быў здольны працаваць. У мяне тады апускаліся рукі. А ён піў няраз запоем.

У мінулым годзе надарылася нагода добра зарабіць. Мы ўзялі яшчэ ў арэнду летнюю кавярню на вольным паветры. Вырашылі, што зоймецца ёю муж. Падабралі нібы надзейных людзей, муж абяцаў, што перастане піць і будзе пільнаваць „інтарэс". І спачатку ўсё так было. Я цешылася, што вымушаная адказнасць зробіць з майго мужа саліднага чалавека. Але дзе там! Ізноў пачаў запівацца. А людзі толькі гэтага і чакалі. Калі шэф не бачыў на вочы, можна было набіваць сабе кішэні. Усё параскрадалі, а мы выйшлі, як кажуць, на нуль.

Божа, сама не ведаю, што рабіць. Не даю рады жыць далей з мужам-п'яніцам, але не магу рашыцца на развод з ім і застацца толькі з дзецьмі. Не робіць ён нічога кепскага, апрача таго, што п'е, але і гарэлку цяжка перанесці. Не мае ён ніякіх каханак, любіць сыноў. Па начах шэпча мне словы кахання, туліць мяне — але толькі тады, калі нямоцна п'яны. Мусіць ужо выпіць штодзень.

Кахаю яго і ненавіджу. Відаць, аднак, у мяне слабы характар. Мая сяброўка ў падобнай сітуацыі была намнога больш рашучая. Яе муж піў, вяртаўся дахаты раніцай, зусім не працаваў, а нават пачаў выносіць з дому найбольш каштоўныя рэчы і прадаваць іх на гарэлку. Яна развялася і засталася з дачкой, якую выхоўвае адна. Ніколі яе былы муж нават не прыслаў аліментаў. Сяброўка кажа, што яна шчаслівая, што адчапілася ад яго, і раіць мне зрабіць тое самае.

Што рабіць, Сэрцайка, парай!

**Лена**

Лена! На маю думку, твая сяброўка не мела што траціць. Яе муж не толькі піў. Ён здраджваў ёй, калі вяртаўся дахаты раніцай: відаць, каханка ішла на работу, а ён вяртаўся тады дахаты. Не працаваў, а яна мусіла працаваць на ўсю сям'ю, каб прынамсі было чым заплаціць за кватэру і наварыць нейкай стравы. Больш таго, муж пачаў абкрадаць яе!

А твой муж яшчэ цябе кахае. Гарэлка нішчыць у ім паўнацэннага чалавека, але яшчэ не знішчыла ўсяго. Любіць сыноў. Не спяшайся з разводам. Можа ўдасца падлячыць яго. Напэўна твае сыны не падзякавалі б табе за тое, што ты пазбавіла іх бацькі.

**Сэрцайка**

## Адгалоскі

### Лепш ніхто, чым абы-які!

Прачытала я ў „Ніве" ад 12 красавіка 1995 г. адказ „Сэрцайка" на ліст, і сама рашыла напісаць у гэтай справе. Не заўсёды я згодна з ягонымі парадамі чытачам, а з гэтым адказам тым больш не згаджаюся!

Добра зрабіла жонка, што выставіла за дзверы валізкі і прагнала такога бацьку і мужа. Што ж гэта за бацька, які не думае пра дзяцей? Зарабляе шмат, а не можа купіць дзіцяці лепшую вопратку? Мая бабуля казала, што такі чалавек не варты фунта попелу. Як можна з'ехаць за мяжу і забыць на тое, што ёсць у чалавека дзеці? Ведаю шмат такіх, што паехалі зарабіць, не ўдалося ім з працай, то хоць пісалі, што грошай не маюць. Нават на білет дадому! А калі недзе „зачапіліся", стараліся слаць дадому грошы і пасылкі. Калі вярнуліся, будавалі дом, куплялі машыну... Што за карысць з такога мужа, які не бачыць патрэб сям'і? Даводзіцца жанчыне прасіць дапамогі ў сваіх старых бацькоў, калі муж зарабляе за мяжой? А прыехаў, робіць скандал у адказ на пытанне пра грошы! Ці гэта сем'янін? Думаю, што лепш ужо, калі няма нікога, чым ёсць такі бацька.

Калі ў Каці будзе шчасце, знойдзе кагосьці на трое чужых дзяцей, бываюць такія выпадкі. Ведаю такую гісторыю, што бацькам чатырох чужых дзяцей стаў кавалер, і адносіцца да іх не горш, чым да сваіх, што нарадзіліся ў сям'і. Цікава толькі, ці цяпер Каця захоча каго-небудзь пасля такога вопыту.

**Аўрора**